ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 23 (2549)
ПЯТНІЦА
4
чэрвеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## САРДЭЧНА ВІТАЕМ!

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР імя Якуба КОЛАСА Ў МІНСКУ



Заслужаныя артысты БССР Ул. Куляшоў (Бенедзікт) і Г. Маркіна (Беатрычэ) у шэкспіраўскай камедыі «Многа шуму з нічога».



Заслужаныя артысты БССР І. Матусевіч і З. Канапелька ў спектаклі «Трыбунал» (Цярэшка Калабок і Паліна).



Сцэна з «Улады цемры» Л. Талстога: Акуліна — Г. Бальчэўская, Мікіта — Л. Трушко, Анісся — Г. Маркіна.

**Х**АЙ ШЧАСЦІЦЬ ВАМ, сябры нашы — коласаўцы, на гасціннай мінскай зямлі! Па сабе ведаем, як гэта пачэсна і адказна сустракацца з гледачамі вялікага горада праз пяць гадоў: хваляванне, імкненне паказаць тэатральны калектыў у лепшых спектаклях і акцёраў у лепшых ролях, клопат пра аншлагі, такія жаданыя для нас, «асваенне» новага памяшкання і г. д. Таму не буду зычыць вам спакою — сцэна яго не ведае і ведаць не мае права. Такім мы і любім ваш калектыў, садружнасць дапытлівых і гарачых мастакоў, гатовых смела вырашаць самыя складаныя творчыя задачы ў класіцы і ў сучасным рэпертуары. Гэтаму спрыяе цікавае спалучэнне вопытных акцёраў старэйшага пакалення і артыстычнай моладзі. Мінчане будуць зацікаўлена глядзець на тое, як тэатр з берагоў Дзвіны «чытае» Шэкспіра і Маякоўскага, Макаёнка і Матукоўскага, як абнаўляе свайго славутага «Несцерку»... Нашы позіркі будуць скіраваны на акцёраў, перш-наперш на іх, бо трупа коласаўцаў заўсёды праз акцёра раскрывае хараство чалавечай асобы, духоўнае багацце змагара за светлыя ідэалы.

Сёння Беларускі драматычны тэатр імя Я. Коласа адкрывае заслону ў сталіцы Беларусі. Поспеху вам, сябры і калегі!

Лідзія РЖЭЦКАЯ,
народная артыстка СССР.



Сцэна са спектакля «Несцерка». У галоўнай ролі — народны артыст БССР Ф. Шмакаў, у ролях пана Бараноўскага — заслужаны артыст БССР Б. Левін, Самахвальскага — артыст М. Цішачкін.

Фота С. КОХАНА.

Мікола ДЗЯШКЕВІЧ

# ПАЎСТАЎ ПРАКЛЯЦЦЕМ КАТАВАНЫ...

**СТО ГАДОЎ НАЗАД ЭЖЭН ПАЦЬЕ НАПІСАЎ «ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ»**

*Такое ж значэнне, як чырвоны сцяг, мае песня «Інтэрнацыянал»...*

**«Правда», 5 красавіка 1917 г.**

ГЛЫБОКАЙ восенню сорак першага года, калі фашысты былі за некалькі кіламетраў ад Масквы, адзін баец знішчальнага батальёна (былы студэнт Інстытута філасофіі і літаратуры) спытаў у свайго таварыша:

— Ты не памятаеш, колькі дзён пратрымалася Парыжская камуна?

— Яна да гэтага часу трымаецца! — пачулася ў адказ.

Баец, магчыма, і не ведаў, што пра Парыж 1871 года гадоў трыццаць назад тое ж самае сказаў У. І. Ленін: «Камуна задушана... а «Інтэрнацыянал» Пацье разнёс яе ідэі па ўсім свеце, і яна жывая цяпер больш, чым калі-небудзь».

Так, гістарычныя падзеі ніколі не праходзяць бясследна. Тым больш такія, як Камуна. Ад іх застаюцца матэрыяльныя сведчанні, да якіх можна дакрануцца рукой,—сцягі, параненыя кулямі, заклікі, надрукаваныя на грубай паперы, падшыўкі газет. Застаецца і нешта другое, значна большае, чаму цяжка знайсці адназначнае вызначэнне, — дух, характар, маральнае семя, якое праз шмат гадоў прарастае ў душах людзей зусім іншага пакалення, перадаючы ім унутраную сілу загінуўшых.

**Гэта бой наш астатні**
**За працоўны народ,**
**Каб у лучнасці братняй**
**Узняўся людскі род.**

Камуна пакінула пасля сябе «Інтэрнацыянал»... Песню, якая ў дзівосна яркіх і ўражлівых вобразах увасобіла веру пралетарыяту ў сваё вызваленне. Песню, якая стала сцягам Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, гімнам першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. І сёння хвалюючыя словы і гукі «Інтэрнацыянала» — партыйнага гімна КПСС, гімна камуністычных і рабочых партый — уздымаюць на барацьбу працоўныя масы ва ўсім свеце.

АЎТАРА слоў «Інтэрнацыянала», члена Парыжскай камуны і яе песняра Эжэна Пацье У. І. Ленін называў «адным з самых вялікіх прапагандыстаў пры дапамозе песні». Завочна асуджаны да смяротнага пакарання, гэты чалавек, хаваючыся на адным з гарышчаў Манмартра, напісаў верш, у якім загучала жывая пераклічка з думкамі К. Маркса і Ф. Энгельса.

Верш быў надрукаваны толькі праз 16 гадоў, у маі 1887 года, за пяць месяцаў да смерці Э. Пацье, у яго зборніку «Рэвалюцыйныя песні». У 1888 годзе адзін экземпляр гэтай кніжкі трапіў у рукі лільскага рэзчыка па дрэве П'ера Дэжэйтара, кампазітара-аматара. Верш захапіў П. Дэжэйтара, і ён напісаў да слоў мелодыю. 23 чэрвеня 1888 года адбылося першае публічнае выкананне «Інтэрнацыянала» на мясцовым свяце гандляроў газет. Спяваў хор лільскіх рабочых.

Так пачалося славутае шэсце гэтай палымянай песні, якое не спыняецца і на сённяшні дзень.

Несумненную цікавасць выклікае гісторыя перакладаў міжнароднага пралетарскага гімна, паколькі яна цесна звязана з гісторыяй рабочага руху розных краін свету.

Неадкладную патрэбу рускага рэвалюцыйнага руху канца XIX пачатку XX стагоддзяў задаволіў пераклад, зроблены летам 1902 года адным з пачынальнікаў рускай рабочай рэвалюцыйнай паэзіі Аркадзем Якаўлевічам Коцам.

На мовы сваіх народаў «Інтэрнацыянал» перакладалі выдатныя дзеячы рэвалюцыйнага руху Генрыэта Роланд Холст, О. Куусінен, Файзула Саджыд, Хо Шы Мін, вядомы пісьменнік А. Акапян, Е. Чарэнц, Лахуці, А. Цэрэтэлі, С. Пашалішвілі.

Беларусь таксама мае свой пераклад. У славутай плеядзе перакладчыкаў і прапагандыстаў «песні песняў рэвалюцыі» пачэснае месца займае імя нашага песняра Янкі Купалы.

ГОРАД Мінск. 1921 год. Красавік. Янка Купала перакладае на родную мову «Інтэрнацыянал».

Гэты рэальны, засведчаны самім тэкстам перакладу факт з жыцця Купалы поўніцца глыбокім сімвалічным сэнсам. Уражвае, прымушае задумацца ў ім літаральна ўсё: пераклад рабіўся ў доміку І з'езда РСДРП; праца над «Інтэрнацыяналам» пачалася адразу ж, усяго праз некалькі месяцаў пасля вызвалення Мінска ад белапольскіх захопнікаў; перакладаючы міжнародны пралетарскі гімн, Янка Купала выконваў партыйнае даручэнне ЦК КПБ.

Паспрабуем жа хоць некалькі вызначыць прычыны, што паклікалі Янку Купалу звярнуцца да міжнароднага пралетарскага гімна.

Пачнём з агульнавядомага. Першае выступленне Купалы ў беларускай літаратуры адбылося 15 мая 1905 года ў мінскай газеце «Северо-Западный край». Літаральна праз некалькі месяцаў пасля публікацыі купалаўскага «Мужыка» гэтая газета, надрукаваўшы праграму РСДРП, артыкулы У. І. Леніна і М. Горкага, увяла спецыяльны раздзел «З песняў барацьбітоў». Уступам да гэтага раздзела з'явілася публікацыя «Інтэрнацыянала» (пад сціплымі трыма зорачкамі замест назвы і без усялякіх каментарыяў). Няма ніякіх сумненняў, што паэт рэгулярна чытаў «Северо-Западный край» і не абмінуў тэксту песні, напоўненай такім дзейсным рэвалюцыйным запалам.

Далей. На літоўскую мову «Інтэрнацыянал» быў перакладзены яшчэ ў 1905 годзе. А ў перыяд жыцця Янкі Купалы ў Вільні, у 1908—1909 гг., «Інтэрнацыянал» з'яўляўся адной з самых любімых песень літоўскіх сацыял-дэмакратаў, сувязь з якімі Купала падтрымліваў рэгулярна.

Нарэшце, яшчэ адно. Са снежня 1909 года па чэрвень 1913 Купала жыў у Пецярбурзе, цытадэлі рэвалюцыі. Вось што пісала ленінская «Правда» ў 1913 годзе пра святкаванне ў Пецярбурзе Першага мая: «...Паліцыя забараніла ў межах горада спяваць: было забаронена несці свой сцяг і спяваць нават за горадам. Як толькі перайшлі мост, мяжу горада, панесліся магутныя гукі «Інтэрнацыянала», якія ўжо не спыняліся ў часе далейшага шэсця. Нягледзячы на праліўны дождж, у шэсці ўдзельнічала 10 000 чалавек».

Нядаўна перачытваў успаміны Максіма Лужаніна пра Янку Купалу і не змог не заўважыць адну рысачку песняра, вельмі ўдала схопленую аўтарам успамінаў. Справа ідзе пра пераклад Купалам паэмы Ул. Бранеўскага «Парыжская камуна». І вось як ацэньвае паэт сваю працу над творам: «Разумееце, перакладаў я гэту рэч і баяўся, што хутка канец. Яшчэ назаўтра хоць кавалак хацелася пакінуць. Што ні слова там, то выбух. І вось дзіва: падзеі даўнія, а твор сучасны. Рэвалюцыя не памірае».

Міжволі ўспамінілася, што маці Уладзіславы Францаўны жыла ў 20-я гады таксама ў Мінску, разам з Янкам Купалам, у тым жа доміку І з'езда РСДРП. А яна была па нацыянальнасці француженкай. Нарадзілася і гадавалася ў Парыжы. Май 1871 года сустрэла васемнаццацігадовай дзяўчынай. Значыць, памятала. Не магла не памятаць.

І самае галоўнае — творчасць Купалы.

Муза песняра ад шырокага спачування, зацікаўленасці жыццём народных мас ішла і прыйшла да заклiку паўставаць, руйнаваць стары свет, помсціць крыўдзіцелям, віноўнікам народнай бяды. Па самой натуры і сутнасці Купала быў рэвалюцыянерам. І «Інтэрнацыянал», як адзін з найвышэйшых узлётаў мастацкага ўвасаблення рэвалюцыйнага духу, пастаянна прыцягваў увагу паэта.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі прапаганда «Інтэрнацыянала» набыла яшчэ больш актуальны, глыбока масавы характар. Вясной 1917 года газета «Правда» за адзін толькі месяц двойчы апублікавала спецыяльную нататку-зварот «Да выдання «Інтэрнацыянала», у якой пісалася наступнае: «Таварышы паэты ўсіх нацыянальнасцей. Просім дасылаць свае пераклады «Інтэрнацыянала» на родных для вас мовах для выдання Цэнтральным выдавецтвам».

Мітынгі, дэманстрацыі, урачыстыя пасяджэнні — усё гэта пачыналася «Інтэрнацыяналам». Песняй рэвалюцыі быў адчынены Першы дзяржаўны беларускі тэатр. Магутнымі гукамі «Інтэрнацыянала» расчыніліся дзверы Беларускага універсітэта. Стыхійна, без усякіх афіцыйных зацвярджэнняў, што само па сабе таксама вельмі знамянальна, «Інтэрнацыянал» стаў гімнам сапраўды свабоднай Беларусі. І Купала не мог не адчуць гэтага. Некаторым сведчаннем гэтаму з'яўляюцца наступныя радкі з верша, якi быў прысвечаны Цішку Гартнаму:

**Каб гучэў Саветаў гімн,—**
**Для свабоднай БССР**
**(Не для іншай там якой)**
**Ён прынёс народу дар**
**«Сваёй ўласнаю рукой!»**

«Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя дала нам волю і права быць гаспадарамі на сваёй роднай зямлі, — пісаў пясняр. — Мы сталі людзьмі звацца». З надыходам новай явы нараджаўся новы Купала — пясняр савецкай рэчаіснасці. І пачатак быў зроблены менавіта «Інтэрнацыяналам».

Праца над перакладам пачалася дзесьці ў канцы сакавіка — пачатку красавіка 1921 года. Газета «Звязда» ад 23 красавіка паведамляла: «Вядомы беларускі паэт Янка Купала перакла́ў на беларускую мову «Інтэрнацыянал». Пераклад не будзе надрукаваны, пакуль перакладчык не зверыць яго з французскім арыгіналам».

Цяжка, не маючы рукапісу перакладу, сцвярджаць, што значыць апошні сказ гэтай нататкі, паколькі самае павярхоўнае азнаямленне з французскім тэкстам «Інтэрнацыянала» дае падставы сцвярджаць, што пераклад з самага пачатку рабіўся з французскага арыгіналу, а не з рускага перакладу, як сцвярджаюць некаторыя. Неабвержным сведчаннем гэтага з'яўляецца тое, што ў 1902 годзе А. Коц зрабіў пераклад толькі 3-х строф «Інтэрнацыянала» (1-й, 2-й і 6-й), астатнія строфы ён перакладаў пазней, у 30-х гадах; Купала ж у 1921 годзе пераклаў усе 6 строф «Інтэрнацыянала».

Больш таго, акрамя зборніка «Рэвалюцыйныя песні» (1887), усе астатнія французскія выданні «Інтэрнацыянала» публікавалі радкі «Гэта бой наш астатні...» як рэфрэн, што паўтараецца пасля кожнай страфы. Купала ж, беручы за аснову прыжыццёвае выданне Э. Пацье, толькі пачаў і кончыў «Інтэрнацыянал» гэтымі радкамі.

Значыць, пераклад рабіўся з кніжкі Э. Пацье «Рэвалюцыйныя песні», той самай кніжкі, што выйшла ў свет за 5 месяцаў да смерці яе аўтара і пра якую адзін з царскіх цэнзараў у тым жа 1887 годзе пісаў наступнае: «...Зборнік рэвалюцыйных песень невядомага да гэтага часу аўтара Яўгенія Пацье, былога ўдзельніка Парыжскай камуны, увесь прасякнут жорсткай нянавісцю да існуючага эканамічнага парадку і накіраваны на ўзбуджэнне «неимущих» класаў да прымусовага перавароту ўсяго грамадскага ладу».

20 ліпеня 1921 года ў «Савецкай Беларусі» ўпершыню быў надрукаваны «Інтэрнацыянал» на роднай мове. У гэтым жа годзе ён быў выдадзены лістоўкай. Сёння гэтая лістоўка стала бібліяграфічнай рэдкасцю — адзін экземпляр яе захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве БССР.

Першую гарманізацыю «Інтэрнацыянала» на Беларусі зрабіў У. Тэраўскі. У 1922 годзе выйшаў з друку яго зборнік песенна-харавых твораў «Беларускі лірнік», у якім былі змешчаны ноты і тэкст міжнароднага гімна. Як сведчаць успаміны К. Пуроўскага, упершыню «Інтэрнацыянал» на беларускай мове прагучаў 23 лютага 1922 года ў выкананні хору пад кіраўніцтвам У. Тэраўскага на плошчы Свабоды, на вялікім мітынзе ў гонар дня Чырвонай Арміі.

РАЗГЛЯДАЮЧЫ сам тэкст купалаўскага перакладу, нельга не заўважыць, як у ім знайшлі сваё арганічнае спалучэнне дакладнасць французскага арыгіналу і рускай рэдакцыі. Параўнаем тры тэксты — пераклады А. Коца, Я. Купалы і арыгінал (у літаратальным падрадковым перакладзе).

«Уставайце, праклятыя зямлі! Уставайце катаржнікі (закаваныя ў ланцугі) голаду!»—так пачынаецца першая страфа ў Э. Пацье. Рускі пераклад захаваў гэты цэласны, дакладны вобраз, сцісла і адначасова ёміста характарызуючы галоўнага героя песні:

**Вставай, проклятьем заклейменный,**
**Весь мир голодных и рабов!**

У перакладзе Янкі Купалы слова «ўставай» заменена на больш палымянае і дзейснае «паўстань», акрамя гэтага вобраз галоўнага героя набыў нацыянальную афарбоўку за кошт замены «катаржнікаў, закаваных у ланцугі голаду» на тыпова беларускае «хто з голаду век пух».

І далей, у Э. Пацье: «Розум бурліць у сваім кратэры! Гэта — вывяржэнне, якое прадвяшчае канец». А. Коц зрабіў гэтыя радкі больш канкрэтнымі:

**Кипит наш разум возмущенный**
**И в смертный бой вести готов,**

У Купалы ж яны яшчэ больш канкрэтызаваны:

**Бурліць наш розум узбунтаваны,**
**Нявoлі кліча рваць ланцуг.**

Параўнанне толькі гэтых чатырох радкоў першай страфы дазваляе заўважыць, як чуйна і ўважліва аднёсся паэт і да рускага перакладу.

Апроч усяго, вядома, што з надыходам Вялікага Кастрычніка адбыліся некаторыя змены ў тэксце рускага перакладу. Напрыклад, у 1919 годзе,

З пошты ЛіМа

## ЗАКОН ЁСЦЬ ЗАКОН

З вялікай цікавасцю і хваляваннем прачытаў артыкул А. Чарняўскай «Квадратура круга». («Літаратура і мастацтва», 12 сакавіка 1971 г.). У адным толькі хочацца запярэчыць — аўтар не мае рацыі, калі гаворыць, што ў нас недастаткова строгія законы па барацьбе са злачыннасцю. Законы ў нас добрыя, бяда толькі, што яны не заўсёды выконваюцца.

Па-першае, у нас ёсць дастаткова законаў, якія пры іх своечасовым, умелым, разумным выкарыстанні даюць адпаведным органам магчымасць **паспяхова** змагацца са злачынствамі, правапарушэннямі, прычынамі і ўмовамі, якія іх параджаюць.

Назаву шэраг юрыдычных норм, якія прадугледжваюць адказнасць за злачынствы, пра якія піша А. Чарняўская.

За сістэматычнае нанясенне пабояў або іншыя дзеянні, якія носяць характар здзекаў, прадугледжана адказнасць да трох гадоў пазбаўлення волі.

Хуліганства, злоснае хуліганства ў залежнасці ад яго цяжкасці, караецца пазбаўленнем волі да 7 гадоў.

Пагроза забойствам, нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў ці знішчэнне рэчаў шляхам падпалу караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 6 месяцаў.

Уцягванне непаўналетніх у сістэматычнае п'янства, азартныя гульні, заняткі жабрацтвам і г. д. караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 5 гадоў.

Што трэба было зрабіць, каб прадухіліць тыя цяжкія злачынствы, пра якія гаворыцца ў артыкуле? Толькі адно. Каб органы міліцыі і пракуратуры строга выконвалі патрабаванні закона. Гэта азначае, што пры выяўленні фактаў, пра якія піша Чарняўская, адразу ж узбуджаць крымінальную справу і прымаць адпаведныя захады, калі ў гэтым ёсць неабходнасць. Пры гэтым няма ніякай розніцы, хто паведаміў органам пра не-

# ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ...

## «...ЯК АРАТЫ ЗА ПЛУГАМ»

«Полымя» карыстаецца ў чытачоў заслужаным аўтарытэтам. Кожную чарговую кніжку часопіса яны чакаюць з вялікім нецярпеннем, бо ведаюць, што менавіта ў «Полымі» іх напаткаюць сустрэчы з сапраўднай прозай і паэзіяй, з лепшымі старонкамі беларускага нарыса і публіцыстыкі, крытыкі і літаратуразнаўства, са змястоўнымі і заўсёды новымі матэрыяламі па гісторыі, навуцы, мастацтве і культуры нашага народа.

Адразу ж скажам, што гэтую высокую рэпутацыю «Полымя» красамоўна пацвярджае і сваёй майскай кніжкай за гэты год. Літаральна ўсе матэрыялы часопіса чытаюцца з неаслабнай увагай і цікавасцю: ад нізкі вершаў В. Віткі, якой адкрываецца нумар, заключных раздзелаў рамана А. Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік», новых строф паэмы А. Куляшова «Далёка да акіяна», апавядання М. Воранава «Сваякі» і навел В. Стафаніка ў перакладзе на беларускую мову Я. Саламевіча да артыкулаў «Жывыя крыніцы стылю» М. Яроша (аб творчасці П. Броўкі) і «Высакародная сціпласць» Ул. Юрэвіча (да 60-годдзя В. Віткі), рэцэнзій Б. Бур'яна на паэму Х. Чэрні «Размова з памяццю», С. Андраюка — на кнігу прозы У. Караткевіча «Чазенія», У. Гніламёдава — на «Беларускія народныя песні» ў серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі», В. Каваленкі — на зборнік вершаў Б. Спрынчана «Рысы твару», Р. Семашкевіча — на зборнік артыкулаў «Сучасная беларуская паэзія», І. Сачанкі — на кнігу М. Іёські «Беларусь і Узбекістан», М. Батвінніка — на манаграфію А. Анушкіна «На зары кнігадрукавання ў Літве», да артыкулаў «Герой «Народнай волі» М. Ласінскага і «Віленская археграфічная камісія» М. Улашчыка, якія змешчаны на апошніх старонках часопіса.

Многія з гэтых матэрыялаў (у прыватнасці, раман А. Асіпенкі і паэма А. Куляшова — яе заканчэнне будзе змешчана ў чэрвеньскай кніжцы «Полымя») варты асобнай, шырокай і прынцыповай гаворкі, якая, будзем спадзявацца, неўзабаве адбудзецца. Нам жа хочацца запыніць увагу чытачоў на раздзеле нарыса. У агульным пераказе зместу часопіса мы знарок не назвалі гэтага раздзела, каб з большай радасцю сказаць цяпер — тут змешчаны нарыс Уладзіміра Якутава «Аляксандр Чарвякоў». Нарыс гэты, несумненна, належыць да лепшых старонак часопіса. Яго моц і прывабнасць — у навізне і багацці матэрыялу з жыццяпісу гэтага выдатнага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі.

Дакранемся да яго так пачалавечы звычайнага і разам з тым дзівоснага, легендарнага жыцця і лёсу...

Нарадзіўся Алесь Чарвякоў у сям'і валаснога пісара. На восем душ бацькавых васемнаццаці рублёў неставала, і Алесь разам з братам Іванам з малых гадоў працуе на будоўлі. Адначасова вучыцца ў двухкласным вучылішчы. Хлопцу пашанцавала — за яго выдатны почырк Алесю прапанавалі пайсці працаваць пісарам. Праца гэтая стала для яго добрай сацыяльнай школай, яна дапамагла яму рана ўбачыць і зразумець прычыны гаротнага жыцця простых людзей. Прага хоць чым-небудзь намагчы гэтым людзям нарадзіла мару — стаць настаўнікам.

І вось здадзены экстэрнам экзамены ў аб'ёме гарадскога настаўніцкага вучылішча.

Семнаццацігадовы Алесь Чарвякоў апынуўся ў Троках, ён вучыць польскіх і літоўскіх дзяцей. Сацыяльная школа, пройдзеная ім, дала аб сабе знаць: малады настаўнік у парушэнне ўсялякіх дзяржаўных інструкцый вывучае польскую і літоўскую мовы, каб вучыць дзяцей на іх роднай мове. Гэта выклікала гнеў чыноўнікаў з Віленскай навучальнай акругі. А. Чарвякоў трапляе ў спісы ненадзейных.

Потым была вучоба ў Віленскім настаўніцкім інстытуце, зноў праца ў школе, а восенню 1915 года А. Чарвякова «забрылі» ў салдаты. Начальства запрыкмеціла разумнага, адукаванага салдата і наважылася зрабіць з яго афіцэра царскай арміі — падымаць у атаку «шэрыя шынялі». Так Чарвякоў стаў прапаршчыкам і быў накіраваны ў запасны полк у Іркуцк. Тут ён зблізіўся з бальшавікамі. А ў маі 1917 ён, камандзір кулямётнай роты ў Петраградзе, уступае ў партыю бальшавікоў. У кастрычніку 1917 кулямётчыкі Чарвякова лупілі са сваіх «максімаў» па Зімнім палацы.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў жыцці Аляксандра Рыгоравіча пачалася зусім новая паласа. Партыя накіравала яго на работу, звязаную з будучыняй беларускага народа і Беларусі. Дзейнасць яго па згуртаванні сапраўды рэвалюцыйных сіл краю, нястомная і бескампрамісная барацьба з нацыяналістычнымі плынямі розных масцей не можа не выклікаць захаплення.

У пачатку 1918 года пры Народным Камісарыяце па справах нацыянальнасцей СНК Расіі быў створаны Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацком). Камісарам Белнацкома быў прызначаны А. Чарвякоў. Работу ў Белнацкоме ён спалучае з працай у Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б) і з работай на пасадзе загадчыка культурна-асветніцкага аддзела Усерасійскага бюро ваенных камісараў. Ён першым распрацаваў асновы палітработы ў Чырвонай Арміі...

Першая, пакуль што кароткая сустрэча з Леніным — Уладзімір Ільіч даручае яму выступіць перад чырвонаармейцамі-сібіракамі, якія адпраўляліся на фронт...

Партыйная канферэнцыя Паўночна-Заходняй вобласці ў Смаленску, якая стала І з'ездам КП(б)Б і якая абвясціла ўтварэнне БССР. У першым Часовым рабоча-сялянскім урадзе Беларускай рэспублікі А. Чарвякоў займае пост Народнага Камісара асветы...

Верасень 1920 года. Аляксандр Рыгоравіч, як прадстаўнік ССРБ — Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі — прымае ўдзел у перагаворах з Польшчай...

Другі Усебеларускі з'езд Саветаў у снежні 1920 года абірае Аляксандра Рыгоравіча Старшынёй ЦВК і СНК рэспублікі. Яму было тады дваццаць восем гадоў. На чале БССР ён стаяў семнаццаць гадоў, да канца свайго жыцця, аддаючы ўсе сілы яе гаспадарчаму і культурнаму будаўніцтву...

Старонкі, прысвечаныя гэтаму перыяду жыцця і дзейнасці Чарвякова, найбольш хвалюючыя. З асобных эпізодаў, фактаў, штрышкоў, старанна сабраных і па-майстэрску пададзеных аўтарам нарыса (Ул. Якутаў піша не проста біяграфію Аляксандра Рыгоравіча, а спрабуе даць жывы, па-мастацку шматгранны і цэласны партрэт яго, і асобныя мясціны нарыса гавораць аб плённасці гэтых спроб), паўстае светлы воблік камуніста ленінскага гарту — цудоўнага, шчырага і простага чалавека, выдатнага гаспадарніка, умелага арганізатара і кіраўніка мас, таленавітага агітатара і прапагандыста ленінскіх ідэй. Ён умеў і любіў гаварыць з людзьмі, ён заўсёды быў сярод людзей, у гушчы падзей. У розных кутках Беларусі ён асабіста ведаў дзесяткі і сотні людзей, асабліва на «Асінторфе» — яго падшэфнай будоўлі. Сапраўды, як жартаваў М. І. Калінін, ён ведаў паў-Беларусі. Інтарэсы народа і роднай краіны былі для яго вышэй за ўсё. І народ плаціў яму ўсеагульнай любоўю і пашанай.

І яшчэ адно. Расказваючы аб дружбе Аляксандра Рыгоравіча з Янкам Купалам, аб тым, што Чарвякоў любіў праводзіць вольныя вечары на кватэры Купалы, дзе збіраліся пісьменнікі, мастакі, акцёры, партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, аўтар нарыса зазначае: «Ён увогуле меў некаторую «слабасць» не толькі да Купалы, а да ўсіх творчых людзей — вучоных, мастакоў, паэтаў, артыстаў. Лічыў, што гэта цвет нацыі, яе духоўнае багацце, якое трэба берагчы, багацце, якое мае асаблівую каштоўнасць для Беларусі, яшчэ зусім нядаўна цёмнай, лапцюжнай, затурканай». Гэтую ягоную «слабасць» спазналі і ўспамінаюць з сардэчнасцю і цяплом многія сённяшнія вядомыя дзеячы нашай літаратуры і мастацтва.

«Ён ішоў па жыцці, як араты за плугам: звычайная справа — пакідаць за сабой раллю, кідаць у яе зерне...» Хада гэтая абарвалася ўсяго на сорак пятым годзе жыцця. Але след яго застаўся. Ён відзён у сённяшнім вобліку квітнеючай індустрыяльна-аграрнай Савецкай Беларусі, у падмурак якой Аляксандр Рыгоравіч самаадана паклаў сваё сэрца.

І хочацца сказаць вялікае дзякуй аўтару нарыса і рэдакцыі «Полымя» за тое, што яны далі нам магчымасць пазнаёміцца — упершыню так поўна і глыбока — з жыццём слаўнага сына беларускага народа, з жыццём, якое варта самай высокай пашаны і пераймання.

**М. РАГОВІЧ.**

## У СЭРЦАХ—БЕЛАРУСЬ

Адкрываеш майскі нумар часопіса «Неман», і адразу ж прываблівае: «Ты ў сэрцы маім, Беларусь!» Такой назвай аб'яднаны вершы паэтаў, чые прозвішчы — амаль усе — зусім незнаёмыя і ніколі не чутыя.

Людміла Вяроўкіна, Міхась Касаткін, Анатоль Кудракоў, Анатоль Кучкін, Уладзімір Стэфанідзі, Аляксандр Мікалайчанка, Вальдэмар Вебер, Валерый Гурыновіч, Рыма Дышаленкава, Лявон Сенчанка, Янка Пасканны, Лявон Кузубаў... Жывуць яны ў розных кутках нашай вялікай краіны, у далёкіх ад Беларусі гарадах і весях (пра гэта гавораць геаграфічныя назвы пад вершамі). Чаму ж у сэрцах іхніх, разам з любоўю да тых мясцін, дзе яны жывуць і працуюць, ёсць яшчэ і асаблівая любасць да нашай Беларусі?

Адказ мы знаходзім і ў вершах, і ў вытрымках з іх лістоў у рэдакцыю, і ў рэдакцыйнай нататцы, якой адкрываецца падборка. У лёсе кожнага з аўтараў, чые вершы складаюць гэту падборку, ёсць сваё, запаветнае, што звязвае іх з нашай беларускай зямлёй.

Вядомы паэт масквіч Восіп Колычаў удзельнічаў у вызваленні Талачына, Барысава, Мінска. На франтавых дарогах — у крывавым зарыве баёў — прырос душою да Беларусі і Міхась Касаткін. Назаўсёды роднаю стала наша зямля і для грэка Уладзіміра Стэфанідзі: нарадзіўся ён на Палессі, выхоўваўся ў Бабруйскім дзіцячым доме, у шаснаццаць гадоў добраахвотнікам пайшоў на фронт — змагацца за свабоду Радзімы, за вызваленне роднай Беларусі. У вайну дванаццацігадовы падлетак Лявон Кузубаў стаў сынам палка, у складзе Калінкавіцкай дывізіі падлетак удзельнічаў у вызваленні Палесся ад фашыстаў. У Мінску нарадзілася Людміла Вяроўкіна, Беларусь ёй давялося, асірацеўшы, пакінуць у сорак першым. «Я беларус, але нарадзіўся ў эвакуацыі на Урале, жыву ў Маскве», — расказвае пра сябе Валерый Гурыновіч. Леанід Сенчанка жыве ў Іркуцку, а родам ён з Віцебска, у маленстве яму давялося зведаць жахі фашысцкіх канцлагераў. А марак Славамір Хадаронак з Калінінграда і інжынер Міхась Стрыгалёў і сёння не губляюць сувязі з Беларуссю — пішуць вершы на роднай мове, друкуюцца ў беларускіх выданнях.

Так, усім ім, як і нам, дарагая і родная наша Беларусь, яны з вялікай зацікаўленасцю сочаць за жыццём нашай рэспублікі, радуюцца працоўным поспехам беларускага народа. Шчымлівая радасць і журбота апаноўваюць іхнімі сэрцамі, калі чуюць яны пра Беларусь, калі напаткаецца ім на жыццёвых дарогах вестка пра любы край або гэткае па-роднаму свойскае беларускае слова.

Безумоўна, не ўсе вершы гэтай падборкі можна лічыць удалымі, але агульны пафас паэтычных выступленняў нашых сяброў і землякоў вабіць патрыятычнай узнёсласцю, душэўнасцю і шчырасцю. Паэзія жыве ў драматычнай няпростасці іхніх лёсаў, у вялікай і дзейснай любві да роднай краіны, у мэтаімкнёным парыванні да праўдзівасці і жыццёвай напоўненасці свайго вершаванага слова.

...У сувязі з гэтай паэтычнай падборкай мне згадаліся снежаньскія дні 1968 года. Тады, напярэдадні вялікага свята беларускага народа — 50-гадовага юбілею БССР і КПБ — у сталіцы Савецкай Радзімы Маскве і ў Падмаскоўі праходзілі ўрачыстыя сустрэчы і вечары, прысвечаныя нашай рэспубліцы. Панавала атмасфера дружбы і братэрства, вялікай любві і павагі да гераічнай Беларусі-партызанкі і Беларусі-працаўніцы. Мне (я прысутнічаў на гэтых урачыстасцях у якасці карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва») асабліва запомніліся тады частыя — радасныя, хвалюючыя, сардэчныя — сустрэчы з многімі нашымі землякамі і людзьмі, чые лёсы назаўсёды звязаліся з Беларуссю праз баявое, франтавое або партызанскае братэрства. Як радаваліся яны за нашу рэспубліку, як душэўна гаварылі пра гэта! Нярэдка яны пачыналі гаварыць па-беларуску, святлелі самі, чуючы беларускую гаворку. На вечары ў Цэнтральным Доме літаратараў было асабліва многа нашых сяброў і землякоў. Сярод іх — Герой Савецкага Саюза віцэ-адмірал Г. Халасцякоў («Я не мог не прыйсці на гэтую сустрэчу, я люблю Беларусь, сваю бацькаўшчыну...»), сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР С. Сартакоў («з беларускай зямлёю ў мяне крэўная роднасць...»)... На гэтым вечары ўзрушана выступіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР паэт Яраслаў Смелякоў («Я па пашпарце беларус, памятаю пра гэта і ганаруся гэтым»). Ён прачытаў тады свой новы верш, у якім былі такія радкі:

> Вы родня мне по духу
> и вкусу,
> По размаху идей и работ,
> Белорусы мои, белорусы,
> Трудовой и веселый народ.
>
> Хоть ушел я оттуда
> мальчишкой
> И недолго на родине жил,
> Но тебя изучил не по
> книжкам,
> Не по фильмам тебя
> полюбил.

Добра, што «Неман», які з беларускіх часопісаў мае найбольшы доступ да ўсесаюзнага чытача, карыстаецца за межамі Беларусі ўсё большым попытам. Тыраж часопіса расце. Гэта не толькі заслуга рэдакцыйнага калектыву, але і сведчанне росту ўсесаюзнага аўтарытэту нашай рэспублікі. Беларуссю цікавяцца, пра яе хочуць ведаць ва ўсіх кутках нашай неабсяжнай Радзімы. І часопіс, калі ён расказвае пра дасягненні нашай рэспублікі ў мірным будаўніцтве, ва ўсіх галінах эканомікі, навукі, культуры, пра сённяшняе жыццё Беларусі і яе гераічнае мінулае, патрапляе да ўдзячных і зацікаўленых чытачоў у Запаляр'і і на Далёкім Усходзе, у Сібіры і на цалінных землях — усюды, дзе жывуць і працуюць нашы сябры і землякі. Добра, што часопіс, мацуючы сувязі з гэтымі сваімі далёкімі чытачамі, знаходзіць і вось такія, як падборка «Ты ў сэрцы маім, Беларусь!», формы дыялогу з імі, Прынамсі, можна нагадаць надрукаваную ў мінулым годзе анкету перакладчыкаў з беларускай мовы, дзе майстры братніх савецкіх літаратур гаварылі аб Беларусі і беларускай літаратуры, і многія іншыя публікацыі часопіса, геаграфічна і духоўна звязаныя з усёй Савецкай краінай.

Нельга абмінуць у майскім нумары «Немана» нарыс Ільі Ражкова «Чалавек з легенды». Публікацыя нарыса яшчэ не закончана, але ўжо зараз можна сказаць, што гэта — новае і вельмі цікавае слова пра слаўнага сына беларускага народа Кірылу Арлоўскага.

А ў раздзеле «Розныя рознасці» мы прачытаем пра гераічную партызанку Ніну Дабравольскую і мужнага воіна, асірыйца па нацыянальнасці, Сымона Біт-Мірзу, які загінуў у маі 1944 года ў баях за вызваленне Беларусі. І пра сувязі з Беларуссю дзекабрыста А. Юшнеўскага. Гэта патрэбна, гэта цікава, гэта зноў-такі выразна падкрэслівае патрыятычную і інтэрнацыяналісцкую скіраванасць публікацый часопіса.

Што яшчэ варта адзначыць у майскім нумары «Немана»? Часопіс пачынае друкаваць пераклад ужо вядомага беларускім чытачам рамана Уладзіміра Карпава «Сотая маладосць» і заканчвае публікацыю дакументальнай аповесці Г. Круглова і Н. Цыпіса «Прыгавор, прыведзены ў выкананне».

**В. БЕЧЫК.**

# УПЕРШЫНЮ

**СПЕКТАКЛЬ «ПАСЛЯ БАЛЮ» ў ДЗЯРЖАЎНЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ОПЕРЫ І БАЛЕТА БССР**

КАЛІ ЗНАЁМСТВА з новым сцэнічным творам выклікае роздум, гэта сведчанне таго, што адбылася цікавая сустрэча з мастацтвам прыкметным, чымсьці хвалюючым, якое вабіць сваёй незвычайнасцю, і ў чымсьці—спрэчным. Такой, на маю думку, з'яўляецца сустрэча з новым балетам Г. Вагнера, творам, настаноўка якога ўпершыню ажыццёўлена на сцэне нашага музычнага тэатра.

Так, «Пасля балю» — прэм'ера незвычайная ўжо таму, што кампазітар і настаноўшчык балета А. Дадзішкіліяні — ён жа аўтар лібрэта — першымі ў сусветнай харэаграфіі мужна зрабілі спробу «прачытаць» Л. Талстога сродкамі музыкі і танца. І няхай талстоўскае апавяданне «Пасля балю» — невялікі па намерах твор з малой колькасцю асноўных дзеючых асоб — але з той жа сілай, што і ў буйных палотнах геніяльнага пісьменніка - драматурга, тут раскрываюцца трагічныя супярэчнасці сучаснага аўтару грамадства, у якім чалавечая асоба прыгнечана паліцэйскай дзяржавай, у якім крывадушнасць і фальш — характэрныя рысы так званага вышэйшага свету.

Дарэчы, тое, што ў апавяданні «Пасля балю» даволі вузкае кола падзей і вельмі абмежаваная колькасць герояў, яшчэ больш ускладніла працу кампазітара і лібрэтыста, прымушала іх часам «па-свойму дагаворваць» асобныя дэталі. Ці заўсёды гэта ўдавалася зрабіць добра, гаворка пойдзе крыху пазней. А пакуль — пра галоўнае, чым вызначаецца новая балетная прэм'ера.

**Якія б ні былі зынаходлівыя ў балетным спектаклі пошукі ў галіне харэаграфіі, асновай для іх заўсёды з'яўляецца музыка, натхнёная, хвалюючая, шматбаковая па мелодыях, па выкарыстанні гарманічных і аркестравых фарбаў, па метрарытмічнай будове і багацці нюансаў. Балет «Пасля балю» — трэці твор такога жанру ў мастацкім партфелі Г. Вагнера, і тут найбольш выразна раскрылася яркае майстэрства кампазітара, яго няспынны рух наперад да вяршынь творчай дасканаласці.**

**Музыка балета «Пасля балю» сапраўды танцавальная ў лепшым разуменні гэтай высокай якасці харэаграфічнай драмы. Танцавальнасць тут не элементарная, не бытавая, яна вынікае з прыроды створаных музычных вобразаў — глыбока псіхалагічных і жанравых, драматычна насычаных і лірычных, гратэскавых, жорсткіх і пяшчотных...**

Як удала і пераканаўча, адразу з адкрыццём заслоны, супрацьпастаўляе кампазітар тэмы разгубленасці героя, які трагічна адчуў зло, і пяшчотнасці яго кахання (вальс)! З якой сілай і палымянасцю раскрываецца гэта каханне ў фінале другога адажыю з першай часткі балета, у гэтым сапраўдным гімне светлым пачуццям.

Нагадаю таксама, якія ўражлівыя «маскі» на балі ў гэтай жа частцы: з вострымі інтанацыямі, гарманічнымі і тэмбравымі аздабленнямі, стракатымі рытмамі іх музычных вобразаў. А колькі аўтарскай чуласці ў гуках старажытнай «Паваны», што створана кампазітарам з выкарыстаннем тэмы англійскага кампазітара Пёрсела (XVIII ст.)!

Многа арыгінальных знаходак у музыцы другой часткі. Тут і зухаватасць, размах, шырыня гучання рэфрэна карціны народнай гулянкі ў начным Пецярбурзе на масленіцу; тут і бяздушша пошчаку барабана, што разам са змрочнай тэмай-воклічам у басклarнетавай партыі і гучаннем мужчынскага хору без слоў здзіўляюча ўражліва перадае атмасферу экзекуцыі на плошчы, адчуванне таго, як топчуць, чалавечую годнасць. Можна прывесці ў якасці прыкладаў яркай кампазітарскай фантазіі і тое, як аўтар выкарыстоўвае сола альтовай флейты ў цыганскім лірычным танцы або сола тубы, флейту-пікала і ўдарныя — у эпізодзе сустрэчы героя з Незнаёмай. У фінальным эпізодзе вялікай музычнай фрэскі начнога святочнага горада ўражвае поліфанічнае злучэнне тэм-вобразаў героя, яго каханай і яе бацькі-палкоўніка.

**І ўсе гэтыя цікавыя і натхнёныя музычныя тэмы-вобразы і іх распрацоўкі ў партытуры балета з'яўляюцца не толькі ўдалымі прыватнымі ўвасабленнямі пэўных эпізодаў ці дзеючых асоб талстоўскага апавядання, не, яны маюць агульны сімфанічны подых і знітаваны драматургічна. Праз усю тканіну твора праходзяць два вядучыя вобразы: палымянага імкнення героя да святла, шчасця, кахання і вобраз змрочнага свету прыгнёту, знявагі чалавека. У калізіі гэтых двух процілеглых пачаткаў раскрываецца трагедыйнасць падзей.**

Узнікае пытанне: ці адпавядае такое рашэнне тэмы ў балеце «Пасля балю» літаратурнай першакрыніцы, ці варта было сацыяльную накіраванасць апавядання пазбаўляць высокага грамадскага гучання за кошт падкрэслівання асабістай драмы героя? Па-першае, лірычны струмень балета апраўданы тым, што ён больш блізкі прыродзе такога жанру, чым эпічная апавядальнасць, у форме якой выкладаюцца падзеі пісьменнікам. Па-другое, тая дэталізацыя карціны экзекуцыі — імкненне героя спыніць пакаранне, адштурхоўванне яго салдатамі палкоўніка, асабістыя перажыванні і разгубленасць ад таго, што карнік — гэта бацька каханай,—такая дэталізацыя існуе больш у лібрэта і ў пастаноўцы, чым у музыцы балета.

**Музыка ж, як было сказана вышэй, выразна і дакладна малюе два асноўныя і кантрастныя пачаткі жыццёвай трагедыі, палярызуе асобу і дзяржаву прыгнёту. Яна раскрывае хвалюючыя перажыванні, страсці, глыбіні маральнага падзення дваранска-буржуазнага грамадства. Гэты псіхалагізм музыкі адпавядае патрабаванням вялікага пісьменніка да драматычнага твора, у якім, на яго думку, «глядач жыве пачуццямі дзеючых асоб», а «побыт» не павінен засланяць «духоўны бок драмы».**

Спектакль «Пасля балю» не заўсёды цалкам стасуецца з такім вызначэннем характару драматычнага твора. Занадта вялікую ўвагу надае кампазітар рэаліям, што не маюць непасрэднага дачынення да драматычных калізій. Калі «маскі» з першай часткі пераканаўча падказваюць нам, што каханне загіне ў гэтым жорсткім і фальшывым салдафонскім свеце, дык калейдаскоп «масак» начнога Пецярбурга—наогул прыгожы, намаляваны рукой майстра—расквечвае толькі побыт і не садзейнічае раскрыццю ўнутранага свету героя, не дапамагае нам «жыць» ягонымі пачуццямі, не высвятляе новых рысаў закаханага. Герой у такіх эпізодах дзейнічае неяк выпадкова, пасіўна прысутнічае пры выкананні эфектных мізансцэн «сняжынак», «скамарохаў» і г. д.

Між іншым, той жа «вакуум» навокал героя і пабудова мізансцэн «на публіку» адчуваецца і ў першай частцы балета, там дзе выконваюцца на балі танцы. Тут глядач не адчувае асяроддзя, у якім адбываюцца падзеі, бо не створана тая «жыццёвая ілюзія», якой заўсёды дамагаўся Л. Талстой ад сцэнічнага твора.

**Некалькі слоў пра пралікі ў музычнай структуры балета. Не выклікае пярэчання стварэнне пэўнай музычнай рамкі: пралог — эпілог. Тут выяўляецца разгубленасць героя ад сутыкнення з жорсткасцю жыцця. Але ці патрэбны ў такім выпадку ваканіз, які выконваецца спявачкай перад эпілогам і гучыць галашэннем па загубленым каханні? Гэты вакаліз — уражлівы, хвалюючы, папярэджвае асноўны фінал і пазбаўляе эпілог патрэбнай сілы ўздзеяння. І яшчэ адна неабходная, на мой погляд, заўвага пра раскрыццё канфлікту: ці не адольваюць ужо з самага пачатку дзеі сілы змроку, бяздушша, гвалту светлыя мары героя, крышталёвую чысціню яго душэўнага парывання? Пяшчотная вальсавая тэма, што звязвае вобраз юнака і чароўнай дзяўчыны, акрамя фінала другога адажыо, пазбаўлена ў распрацоўцы музычнага вобраза радасных узлётаў усюды, дзе яна ўзнікае побач з апантаным каханнем героя. Нейкі запраграмаваны цяжкі лёс, асуджанасць на знявагу адчуваюцца на працягу ўсёй экспазіцыі лірычнай тэмы кахання і сустрэч з юнаком. Мы не так востра адчувалі б гэтую аднастайнасць, калі б тэма радасці і кахання ўладна ўпляталася ў музычную тканіну першай паловы карціны начнога Пецярбурга. І атрымаўся б эфект «прысутнасці» героя ў дзеі, а ўсё, што адбываецца на народнай гулянцы, глядач успрымаў бы «ягонымі вачыма». Такое вырашэнне яшчэ мацней падкрэслівала б крушэнне ўсіх надзей героя пры сутыкненні са здзекам з асобы чалавека ў сцэне экзекуцыі.**

У гэтых нататках я наўмысна адрасую, можа, і спрэчныя заўвагі, толькі аўтару музыкі. Тое-сёе на першым этапе стварэння балета залежала і ад лібрэтыста, але «апошняе слова» ў вырашэнні музычнай драматургіі сінтэтычных твораў належыць кампазітару. Ён адказны і за пралікі, калі яны ёсць у лібрэта. У той жа час, пастаноўшчык харэаграфічнага спектакля, чулы да музычнай драматургіі, можа ўзбагаціць, паглыбіць сцэнічную дзею ці павесці яе «ўбок», адштурхоўваючыся толькі ад свайго бачання падзей, падказанага яму музыкай. Асабліва часта такая небяспека ёсць, калі лібрэтыст і пастаноўшчык музычнага твора—адна і тая ж асоба (у дадзеным выпадку—А. Дадзішкіліяні).

Аўтар сцэнічнага вырашэння балета як бы ўвасабляе толькі сваю харэаграфічную п'есу, занатаваную ў ягоным лібрэта, калі ён не ва ўсім лічыцца з музычнай драматургіяй. Таму і знікаюць або ўзнікаюць на сцэнічнай пляцоўцы тыя ці іншыя персанажы балета ў адрыве ад музыкі дадзенага эпізода, ад агульнага настрою, псіхалагічнай атмасферы, пра што гаворка ішла раней, калі падкрэслівалася адсутнасць саўдзельнічання героя ў сцэнічных падзеях.

Атара Дадзішкіліяні ў новай прэм'еры нельга папракнуць за адсутнасць творчай фантазіі ці за адмаўленне ад пошукаў сучасных сродкаў харэаграфічнай выразнасці. Разам з тым, нестае яму часам выразнай пластычнасці харэаграфічнага прачытання музыкі, нестае цеплыні і ўнутранай эмацыянальнасці для раскрыцця душэўнага багацця вялікага кахання. Нешта ад мастацкай, яркай і прадуманай, але гімнастыкі—не харэаграфіі—адчуваецца ў вырашэннях пастаноўшчыка адажыо і па-дэ-дэ: ці то юнака і дзяўчыны, ці то яго ж і палкоўніка (сцэна экзекуцыі). Калі такі прыём у чымсьці апраўданы там, дзе ўвасабляюцца вобразы бяздушша і

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*





**Днямі ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР адбылася прэм'ера аперэты «Каўказская пляменніца». Кампазітар — народны артыст Азербайджанскай ССР Рауф Гаджыеў, аўтары п'есы — Вячаслаў Есьман і Канстанцін Крыкаран. Пастаноўка Марка Кларысава, дырыжоры Пётр Кірыльчанка і Генадзь Хаханьеў, хормайстар Галіна Палянкова, балетмайстар Элга Друле, мастацкае афармленне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Армена Грыгар'янца.**

**На здымках — сцэны са спектакля. Уверсе — Лала і Арыф (артысты В. Мазур і В. Бурцаў). Унізе — артысты А. Прыходзька і В. Шаўкалюк у ролях братоў Джэваншыравых.**

Фота Ул. КРУКА.

# ...І ЗАЎСЁДЫ МАЛАДЫ

**Споўнілася трыццаць гадоў з дня прэм'еры камедыі «Несцерка» Віталя Вольскага на сцэне Другога БДТ (цяпер тэатр імя Я. Коласа). Амаль 400 разоў узнімаў тэатр заслону, каб паказаць дасціпны і аптымістычны па ўсіх сцэнічных фарбах спектакль, — прыгоды надзвычай кемлівага і заўсёды маладога па духоўных імкненнях героя, каб ваяўнічым смехам выкрыць пыху і фанабэрыстасць паноў і падпанкаў. Пакаленні гледачоў горача апладзіруюць аўтару камедыі, рэжысуры і выканаўцам за іх сапраўды арыгінальны тэатральны твор, дзе гучыць светлы народны гумар і іскрыстае слова.**

**Мы друкуем старонкі ўспамінаў адной з удзельніц спектакля Таццяны Бандарчык пра тое, як пачыналася сцэнічнае жыццё «Несцеркі».**

У ПАЧАТКУ 1941 года наша трупа прыняла да пастаноўкі «Несцерку». Пяць гадоў — пасля «Вечара беларускіх вадэвіляў» — у нас не было такой п'есы ў рэпертуары. Настаноўшчыкам запрасілі Н. Лойтэра, кампазітарам І. Любана, мастаком Л. Кроля. Рэпеціравалі з вялікім захапленнем, весела, з творчай выдумкай. І вось 18 мая ў Віцебску адбыўся спектакль для грамадскасці горада. Прыём гледачоў быў надзвычай добры. Апладзіравалі і А. Ільінскаму за непаўторнага Несцерку, і ўсім акцёрам, і музыцы, і дэкарацыям. Было нешта падобнае на свята тэатра...

На другі дзень выправіліся на гастролі ў Карэлію. Прыязджаем у Петразаводск, а касцюмаў «Несцеркі» няма і невядома, дзе яны. Было работы тэлефонам! А вынікаў ніякіх. Вечар. Тэатр паўнюткі. Дэкарацыі стаяць, акцёры напагатове, а пачаць нельга. Што перажылі!.. Многія плакалі ад прыкрасці, горычы. Спектакль перанеслі на заўтра.

**У тую ноч, а ноч белая, незвычайная, ніхто не спаў. Пачаліся настойлівыя пошукі. Відаць, было ўсё пастаўлена на ногі. Нарэшце выявілася—недзе на далёкай станцыі здарылася крушэнне, вагон пашкоджаны. Перагрузіць і даставіць касцюмы поездам можна толькі на трэці дзень. Нам выдзелілі гідрасамалёт!..**

Надышоў другі вечар. І зноў паўнюткі тэатр... І зноў усе гатовы—у грыме, парыках. Толькі касцюмы надзець... Надвор'е дрэннае, дождж. Гідрасамалёт вылецеў з касцюмамі, а тут няма... Восем, дзевяць, дзесяць гадзін... Няўжо зноў адмяняць? Гледачы не разыходзяцца. Заходзяць за кулісы, спачуваюць, супакойваюць. Прапануюць сыграць у любых касцюмах. «Несцерка» не ў «сваіх» касцюмах? Асабліва апошняя карціна—вяселле Насці? Не ўяўлялі гэтага. І тут пазванілі па тэлефоне: гідрасамалёт прыводніўся на Анежскім возеры! Там машына ўжо даўно чакала. Прынеслі касцюмы, звязаныя ў клумкі, пакамечаныя, падмочаныя. Усё і ўсіх мабілізавалі прасаваць, сушыць. Што можна было, надзелі, і праз некалькі мінут спектакль пачаўся.

**Усё прайшло вельмі добра. Прыём надзвычайны. Гледачы доўга не разыходзіліся, віншавалі, горача (ужо яны нам) даказвалі, што «такі спектакль у іншых касцюмах іграць нельга. Нашаму тэатру трэба з вас прыклад браць—стварыць на ўласным фальклоры такі ж спектакль».**

**З нязменным поспехам прайшоў «Несцерка» некалькі разоў. Потым дэкарацыі і касцюмы з суправаджаючымі рабочымі загадзя былі адпраўлены ў Полацк, дзе ў канцы чэрвеня павінны былі пачацца гастролі тэатра.**

Вайна зблытала ўсе планы. Мы 23 чэрвеня выехалі з Петразаводска і праз тры дні прыбылі ў Віцебск. Ні вагона з дэкарацыямі і касцюмамі «Несцеркі», ні суправаджаючых яго рабочых у Віцебску не было. І шукаць стала немагчыма—налёты варожай авіяцыі, трывогі, бамбёжкі, першыя ахвяры...

«Загінуў наш «Несцерка»,—думалі мы.

5 ліпеня на золку выехалі з Віцебска... Пасля доўгай дарогі з часовым прыпынкам у Свярдлоўскай вобласці ў жніўні ўначы прыбылі ва Уральск. Цёмна... Ціха. Нікога няма. Засталіся ў вагонах (таварных), пакуль развіднее. Раптам стук у вагоны: «Дзе тут беларускі тэатр? Уставайце, едзьце ў тэатр, там нейкая ваша маёмасць ужо больш двух тыдняў ляжыць».

**Не маглі даўмецца, што там за маёмасць такая. Усё, што можна, узялі з Віцебска і везлі з сабою. Дабраліся да тэатра, а там—дэкарацыі і касцюмы «Несцеркі» і «Лекара мімаволі!» Відаць, суправаджаючыя рабочыя былі мабілізаваны ў армію ў першыя дні вайны, здалі вагон недзе чыгуначнікам, а тыя («все, что можно, угонять в тыл») адправілі яго ў Маскву. У Маскве (нам гэта было невядома з-за дрэннай сувязі ў першыя дні вайны) прызначан быў для эвакуацыі тэатра Уральск, і накіравалі туды вагон Знайшоўся «Несцерка»!**

Ну, калі ты, «Несцерка», зноў знайшоўся, не забілі цябе,—жыць табе доўга, думалася нам.—Нядоўга мы тут будзем. Скора назад у Беларусь вернемся. Будзем ехаць праз Маскву—расставім тваё дэкарацыі проста на плошчы перад Беларускім вакзалам, сыграем і дадому!..

Толькі праз тры гады споўнілася гэта. Ігралі ва Уральску, Арэхава-Зуеве. А перад вяртаннем дадому, пад пераможныя салюты ў гонар нашай арміі, якая ўжо вызваліла Беларусь ад фашысцкай нечысці і ішла далей на захад, сыгралі мы «Несцерку» ў Маскве, у жніўні 1944 года (шкада, не на плошчы Беларускага вакзала!).

У зруйнаваным Віцебску на свята кастрычніка ў кінатэатры «Спартак» быў сыграны апошні акт «Несцеркі». А потым ужо ў клубе металістаў (яго ўвесь горад аднаўляў), «Несцеркам» тэатр адкрыў свой дзевятнаццаты сезон. Рашылі кожны сезон адкрываць гэтым спектаклем.

Ранняю вясной 1946 года (лёд на Дзвіне патрэскаўся, адышоў ад берагоў, але яшчэ не пайшоў) нам паведамілі, што прыедзе камі-

бязлітаснасці, то змярцвелым успрымаецца танцавальны малюнак, прызначаны перадаць імкненне да радасці, да шчасця героя і яго каханай. І ў той жа час, пастаноўшчык спектакля чамусьці паказвае традыцыйным злодзеем, нейкім «Ротбартам у мундзіры палкоўніка» бацьку дзяўчыны (асабліва ў другой частцы пастаноўкі). Дарэчы, «знаёмства» з палкоўнікам здзіўляе яшчэ адным: спробы зрабіць гэтую партыю цалкам «балетнай» прымусілі пастаноўшчыка надзець на выканаўцу гібрыдны касцюм—мундзір і... балетнае трыко з адпаведным абуткам. Калі на балі такая знешняя стракатасць яшчэ неяк згладжваецца—усё ж мазурка!—дык у сцэне пакарання салдата, на фоне афіцыйна-статутнай ваеннай вопраткі ўсіх яе ўдзельнікаў, фігура палкоўніка ўспрымаецца не страшэннай, бязлітаснай, а гратэскавай. Гэта зусім не адпавядае трагедыйнай сітуацыі.

І адначасова з такімі яўнымі, на мой погляд, пастановачнымі пралікамі яркая фантазія А. Дадзішкіліяні дапамагла вельмі цікава ўвасобіць на сцэне вобразы «масак» на балі і ў начным горадзе. Тут адчуваюцца і вялікі мастацкі густ, і глыбіня думкі харэографа. Цікава выкарыстоўвае пастаноўшчык таксама сцэнічную пляцоўку для пабудовы мізансцэн. Яркае ўражанне пакідае ў гледача і сама карціна масленічных гульняў, і экзекуцыі. У гэтых эпізодах удалым саюзнікам пастаноўшчыка выступае мастак Я. Ждан. Па-мастацку вынаходліва падкрэслена ў спектаклі паліцэйская сутнасць дзяржавы ў падабенстве афіцэрскіх мундзіраў і шлагбаўмаў...

**Як дапамаглі ўдзельнікі спектакля ўвасобіць задуму кампазітара і харэографа? Мне здаецца, што выканаўчыя здабыткі і страты ў спектаклі «Пасля балю» залежаць ад рэжысёрскага раскрыцця ў танцы ўнутранага свету герояў. Харэограф, відаць, прапанаваў такую трактоўку партыі выканаўцам, якая, на жаль, пазбаўляе цеплыні танец Л. Бржазоўскай, уладнасці і рашучасці палкоўніка М. Грышчанкі, а герою Ю. Траяна (па волі ўжо не толькі пастаноўшчыка, але і кампазітара) нестае веры ў радасць жыцця.**

**Эфектныя вобразы стварылі Н. Карпенка (Незнаёмая), В. Елсукова (Цыганка), В. Лапо (Каламбіна), Л. Шляр (Пятрушка). Добра выконваюцца ўсе ансамблевыя сцэны з удзелам кардэбалета.**

**Яркае ўражанне пакідае раскрыццё партытуры дырыжорам В. Машэнскім. Трэба адзначыць ансамблевасць ігры аркестра, удалае падкрэсліванне тэмбраў і дынамічнага светлаценю, узаемаразуменне са сцэнай.**

Новы балетны твор набыў сцэнічнае жыццё, ён выклікае шмат думак, спрэчак, як і любы пошук новых фарбаў увасаблення класічнай літаратуры.

**І. НІСНЕВІЧ.**

---

сія па Дзяржаўных прэміях СССР глядзець «Несцерку» (быў вылучаны на прэмію А. Ільінскі). У камісію ўваходзілі І. Судакоў і І. Дунаеўскі.

**Увечары народу бітком (дачуліся пра камісію), нягледзячы на непагадзь і на абход на дальні мост. Атмасфера ў зале надзвычайная—душэўная, а акцёрам—гэта самае галоўнае.**

**Скончылі, на гарачыя апладысменты нахіляліся. Бяжыць нехта: «Не распранайцеся, камісія сюды ідзе!»**

**Уваходзяць. Усхваляваныя...**

**— Калі мы бываем, увесь тэатр хвалюецца, а мы, камісія, глядзім, нічога не гаворым і толькі Камітэту дакладваем свае ўражанні. А сёння мы не змаглі так. Нам захацелася прыйсці да вас. Горада ж няма, жыць няма дзе, а людзі, мы бачылі, па гразі ідуць у тэатр! Народ любіць вас! Нізкі паклон вам за такі спектакль...**

**Многа шчырых прыемных слоў пачулі мы ад Судакова і Дунаеўскага. Яны сказалі, што будуць прапаноўваць на прэмію спектакль. Спектакль і пяць чалавек атрымалі Дзяржаўную прэмію СССР—Н. Лойтар, І. Любан, А. Ільінскі, П. Малчанаў, Ц. Сяргейчык.**

Усюды «Несцерка» мае поспех. І не толькі на сцэне: і разьбяры з дрэва яго выразаюць, і з гліны лепяць, і быў куточак сатыры і гумару «Несцерка» ў газеце (здаецца, у «Чырвонай змене»). «Несцерка»—такі, якім стварыў яго першы выканаўца гэтай ролі народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі А. Ільінскі,—у кароткай світцы, лапцях, з торбачкай на кіёчку за плячыма.

**Мінаюць гады, а спектакль беражліва захоўваецца ў рэпертуары коласаўцаў. І гэта вельмі хораша! На вобразах створаных ветэранамі тэатра, вучыцца артыстычная моладзь, ролі пераходзяць ад старэйшых да моладзі, і атрымліваецца добрая, такая плённая перадача эстафеты! А радасная атмасфера глядзельнай залы ўсюды, дзе выступае тэатр з «Несцеркам», сведчыць аб тым, што поспех да В. Вольскага і выканаўцаў, прыйшоў невыпадкова—такія творы, на сапраўды народнай глебе, патрэбны людзям, бо абуджаюць светлы настрой і аптымістычны роздум аб мінулым і цяперашнім часе.**

Доўгіх табе год жыцця, «Несцерка»!

**Таццяна БАНДАРЧЫК.**

---

АКЦЁРЫ І РОЛІ

# «З ТАКІМІ ЛЮДЗЬМІ Я СУСТРАКАЎСЯ...»

*Аляксей ЦАРОЎ — ЦЯРЭШКА У СПЕКТАКЛІ «ТРЫБУНАЛ» ГРОДЗЕНСКАГА ТЭАТРА*

КАЛІ ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры ішла яшчэ рэпетыцыя трагікамедыі Андрэя Макаёнка «Трыбунал», я неяк разгаварыўся з выканаўцам ролі Цярэшкі Царовым. Мне было цікава даведацца, як ідуць рэпетыцыі, што ён думае пра свайго героя.

— З такімі людзьмі, як Цярэшка, сустракаўся не адзін раз... У Вялікую Айчынную вайну я ваяваў тут, у Беларусі, ведаю партызан. Ды і наогул многія простыя людзі, з якімі давялося сустракацца, нагадваюць майго героя. Але ўсё роўна. трэба шукаць і шукаць характар. — вы ж самі ведаеце... — гаворыць Аляксей Андрэевіч.

У спектаклі «Трыбунал» у пастаноўцы рэжысёра А. Струніна ёсць, мне здаецца, некалькі цікавых акцёрскіх работ, але пра вобраз Цярэшкі ў выкананні Аляксея Царова хочацца пагаварыць больш падрабязна...

Вось ён, хударлявы, спрытны, з рэдкай рыжаватай бародкай, неяк таямніча паблісквсючы вачыма, звяртаецца да жонкі:

— Паліна! Полюшка-Поля! Дзе ты тута-а? А-а, вось дзе яна-а! Полюшка! Хуценька нясі сала, нясі яйкі, нясі капустачку кісленькую і агурочкаў, галубочкаў.

Гэта першае выпрабаванне для Цярэшкі. Ён павінен весці двайную гульню. Ён павінен быць не самім сабой перад жонкай, з якой пражыта доўгае і шчаслівае жыццё.

Так трэба.

А вось да новага старасты прыходзяць начальнік паліцыі Сырадоеў і нямецкі камендант. У пачатку гэтай сцэны Цярэшка ліслівы, нават рабалепны. Ён непрыемна хіхікае перад «дарагімі гасцямі», расказвае пра сваю жонку, дзяцей. А выпіўшы, буяніць, нібы сапраўды не толькі гарэлка, але і ўлада закружыла яму галаву. «Першы раз за ўсё жыццё я стаў на-чаль-ні-кам!».



А. Цароў у ролі Цярэшкі.

Складаную псіхалагічную сцэну праводзіць Аляксей Цароў — Цярэшка, пасля адыходу гасцей са сваімі роднымі, якія наладжваюць суд над ім. У гэтым надзвычай напружаным эпізодзе суда артыст па-майстэрску паказвае шматграннасць характару свайго героя. Яго Цярэшка просіць, моліць, абураецца... Але па асобных інтанацыях, імгненных позірках адчуваеш яго любоў да блізкіх.

Цікавым здаецца маналог Цярэшкі ў пачатку другой дзеі. Артыст пачынае яго павольна, разважліва. Успамінае шчаслівае мінулае, а потым не без хітрасці, якая, здаецца, зусім не ўласціва характару Цярэшкі, і неяк двухсэнсоўна працягвае. «Вось... а мне для чаго ўлада? Вось сёння? А я і не ведаю. Сёння яна мне, дапусцім, не патрэбна. А чаму я ўсё-такі захапіў яе — уладу гэту? Дзеля чаго? На ўсялякі выпадак. А раптам! Раптам заўтра яна спатрэбіцца. А? На ўсякі выпадак няхай будзе ў маіх руках...»

Тут нібы перакідваецца масток паміж двума абліччамі героя: тым, якім ён павінен быў стаць, ідучы на службу да немцаў, і сапраўдным — абліччам патрыёта і грамадзяніна.

У заключных сцэнах Цярэшка — Цароў, канчаткова пераканаўшыся, што ён можа смела даверaць жонцы, адкрывае пароль і просіць яе схадзіць да камандзіра партызанскага атрада.

Атрымаўшы свабоду, Цярэшка працягла крычыць: «А-а-а!». І гэтае «А-а-а!» можа замяніць цэлы маналог. У ім — і радасць вызвалення, і гордасць за блізкіх, і просьба аб прабачэнні...

А. Цароў у ролі Цярэшкі паказаў сябе сур'ёзным, удумлівым акцёрам, які ўмее выбраць дакладныя дэталі і штрыхі і. стварыць вобраз жыццёвым і праўдзівым.

**Ул. ДЗЁМІН.**

---

# ЖЫЦЦЁ, ЯКОЕ ЯНА ПРАЖЫЛА

*Ала ПАЛУХІНА. У СПЕКТАКЛІ МАГІЛЁЎСКАГА ТЭАТРА ДРАМЫ І КАМЕДЫІ У БАБРУЙСКУ «ПРАЧНІСЯ І СПЯВАЙ» М. ДЗ'ЯРФАША*



Цётка Тоні—А. Палухіна, Дзьюла—В. Шушкевіч.

ІГРАЦЬ не свой узрост—адна са складанейшых задач для акцёра, асабліва для маладога. Тым больш нечаканым аказаўся для нас у спектаклі бабруйчан вобраз цёткі Тоні, створаны маладой актрысай Алай Палухінай. Яна адразу зразумела, што ёй не сыграць 70 гадоў, якія споўніліся ў п'есе цётцы Тоні. Актрыса і не спрабуе стварыць вобраз старой жанчыны. Яна паказвае, якой сама б хацела быць у 70 гадоў. Гэта не тэатр «прадстаўлення», гэта—мастацтва перажывання, але не такое, калі акцёр «раствараецца» ў вобразе, а калі як бы «прымярае» да сябе душу і жыццё іншага чалавека.

**Калі першы раз сустракаеш цётку Тоні — у строгім, але модным плацці «для пажылых», з каляровым, можа праз меру, парасонам у руцэ, задумлівую і нейкую «адсутную», заўважаеш не старасць, а хутчэй адчужанасць. Нягледзячы на намаганні грымёра, актрысе нельга даць больш трыццаці. Але на працягу першай жа сцэны дзесяткі самых дробных адценняў у інтанацыях, манеры трымацца, у чымсьці яшчэ, што цяжка вызначыць, даюць адчуванне, што для гэтай жанчыны ўсё ўжо ў мінулым, што яна ўжо канчаткова прымірылася з тым, што жыццё для яе—адны ўспаміны.**

Дзьюла, яе сусед, юнак, якіх многа,—непакорлівы і слабавольны, сардэчны і эгаістычны,—ад няма чаго рабіць пачынае з ёй размову: «Цётка Тоні?»—«Я».—«Гэта вы так рана прачнуліся?» — «Яшчэ не прачнулася».——«А што вы тут робіце?»—«Чакаю». — «Чаго?» — «Калі скончыцца дождж». Пачуўшы, што дождж даўно ўжо скончыўся, яна нібы толькі цяпер прачынаецца ад сну і, затрымліваючы ўздых, ветліва гаворыць: «Дзякуй». Складвае свой парасонік і на нейкую долю мінуты, як быццам нават знешне, становіцца старой...

Несці драматычную ноту ў вадэвільным спектаклі—быццам хадзіць па канаце: крыху не так—і трапіш у звычайную сентыментальнасць, крыху ў другі бок—і цябе «захлісне» меладраматычная раз'юшанасць. Палухіна пазбягае і аднаго, і другога. Актрыса знаходзіць дастаткова паўтонаў, каб за лёгкасцю, дасціпнасцю, бляскам праступалі і боль, і смутак. У партытуры ролі напісана: «Ён пастаянна трэба пераконваць акружаючых, што яна яшчэ ў форме, што маладая... Дзьюла пакрыўдзіў яе, назваўшы «клапатлівай квактухай»... Вельмі засмуцілася. Страх... Абурэнне». Гэта і іграецца. І не толькі гэта: актрысе ўдалося выказаць і яшчэ нешта большае.

Скажам, яна жартуе з Дзьюлам: «Зараз я адчуваю сябе не вельмі старой. Старым чалавек становіцца тады, калі яму ў галаву прыходзяць мудрыя думкі...» Ці вось «трымае марку» перад маці Дзьюлы: «Кажу, як квактуха. Ваш Дзьюла так мяне назваў». — «Ён і вас зняважыў?» — «Зняважыў? Наадварот, гэта так цікава — выглядаць квактухай...» Тут не толькі жаданне выглядаць маладой у вачах акружаючых. Тут—душэўная гордасць і душэўная тонкасць чалавека, які нікога не хоча абцяжарваць сваім болем, крыўдай, смуткам: цнатлівасць старасці, у якой яшчэ маладое сэрца.

**Цётка Тоні ўпершыню сустракаецца са сваёй маладзенькай сваячкай Каролай. Па задуме аўтара і рэжысуры, дзяўчына сваёй неўтаймоўнай актыўнай зацікаўленасцю і верай «абмаладжвае» душы дарослых, празмерна «ўстойлівых» у жыцці людзей. У сваіх жа равесніках яна ўмее абуджаць імкненне і «рух», здольнасць разумець старэйшых і знаходзіць з імі агульную мову. Мілая і звычайная дзяўчынка, якой іграе Каролу Э. Шклярава, выказала да сваёй незнаёмай цёткі звычайную, па сутнасці, цікавасць, але затое — цікавасць менавіта да яе, персанальна да яе. Гэта ўсяго толькі крыху больш, чым знешне прыстойная абыякавасць акружаючых. Але нават гэтага «крыху» дастаткова сэрцу Тоні—Палухінай: малая чалавечая ўвага прагучала да яго як «Сезам, адчыніся!»**

Мала сказаць, што Тоні—Палухіна ўспамінае ўголас аб сваіх каханых. Яна дзеліцца сэрцам з гэтай дзяўчынкай, якую ўбачыла ўпершыню, дзеліцца па-юнацку бясстрашна і шчыра. Расказ-споведзь пераходзіць у танец, а танец зноў—у паэзію нібыта самых звычайных слоў... Гэта сцэна—кульмінацыя ролі Палухінай і ўсяго спектакля. Заўважым, Палухіна і танцуе выдатна! А як драматычная актрыса працягвае і паглыбляе расказ пра тое, аб чым толькі што гаварыла словамі.

**Цётка Тоні пяць разоў кахала, і ўсе пяць разоў, як яна хоча верыць, кахалі яе. З кожным каханым яе разлучаў час — гісторыя, а не проста жыццё: вайна, беспрацоўе, фашысцкая дыктатура, палітычная барацьба... У той меры, у якой дазваляе сам жанр вадэвіля, водгулле жыццёвых трагедый актрыса перадае вельмі тонка.**

І над усім у гэтай сцэне пануе маладая думка—«няхай бы ўсё паўтарылася спачатку!..» Цётка Тоні радасна ўспамінае пра мінулае, бо жывое жыццё заўсёды лепш за небыццё. Для актрысы ж тое, што маладосць сэрца можна ў сабе захаваць назаўсёды, самае аптымістычнае ў вобразе старой. Яе гераіня мела талент кахаць, нічога не патрабуючы, апрача кахання, — ні вечнасці, ні адмаўлення ад іншых мужчынскіх абавязкаў, спраў і імкненняў, без спробы «прывязаць» да сябе маральным ці яшчэ якім-небудзь ланцугом. Яна не ўмела крыўдзіцца і пакутаваць, калі, напрыклад, дарагі чалавек «любіў камяні і мінералы, вядома, больш за мяне»...

Як шкада, калі нават такое сэрца бядуе—дастаткова толькі трапіць у атмасферу абыякавасці і дазволіць гэтай абыякавасці пераканаць цябе, што ты, маўляў, ужо нікому не патрэбны. І наадварот, Тоні—Палухіна робіцца прывабна-патрэбным для ўсіх чалавекам, калі адчувае, што хтосьці яе добра разумее і «не заўважае» ўзросту жанчыны, бо не ва ўзросце шчасце...

Калі глядзіш спектакль, бачыш яркі сцэнічны вобраз і адчуваеш мару самой актрысы аб жыцці з горда ўзнятай галавой, з адкрытым людзям добрым сэрцам. І тое, што робіць А. Палухіна, арганічна ўпісваецца ў арыгінальны малюнак спектакля, створаны рэжысёрам Віктарам Каралько.

**Г. ТРЭСТМАН, К. ХАДЗЕЕЎ.**

Ул. МЕХАЎ

# ...І БЫЛО ЯШЧЭ КАХАННЕ

## «НАРОДНАЯ ВОЛЯ». ЛЁС ДЗЯЎЧЫНЫ З ПАЛЕСКАГА ГАРАДКА

ТРАГІЧНЫ, але як жа агністы лёс адной жанчыны з глухога і ўбогага па тым часе палескага гарадка не-не ды трывожыць маё ўяўленне. Жанчыны, якой наканавана было гібець і чэзнуць сярод галоднага енку тонкашыіх рахітыкаў, селядцовага смуроду капеечнай крамкі, адвечнага страху перад крыжовым шэсцем пагромшчыкаў,—а выпала грозным дакорлівым прывідам увайсці ў кабінеты найпершых саноўнікаў і будуары фрэйлін, у сны самога ўсерасійскага самадзержца.

Жанчыны, якая да канца жыцця заставалася не ў ладах са школьнай граматыкай — дастаткова адзінай уласнаручна напісанай ёю фразы, што захавалася да нашых дзён, каб зразумець пакручастыя дарогі яе да азоў пісьменства, — але якая ўразіла сілай і прыгажосцю духу буйнейшых інтэлектуалаў часу.

Жанчыны, над доляй якой спагаднымі, жаласнымі слязьмі плакалі сучасніцы. А была гэтая доля куды як шчаслівейшая за долю многіх яе плакальшчыц. Нават у чыста жаночым, інтымным, пры ўсёй трагедыі фіналу.

Бо асветлена была сліпуча-зыркім сэнсам, да якога ўзнімаюцца толькі лепшыя з людзей.

Бо было ў гэтай долі каханне. Прыгожае і палымянае, як у «Песні песень».

●

ПРА «НАРОДНУЮ ВОЛЮ» наогул напісаны манблан мемуараў, артыкулаў, даследаванняў, раманаў.

Гара, хоць і ладна меншая, — непасрэдна пра замах 1-га сакавіка 1881 года.

Пра Гесю Гельфман, адну з шасцёх, каго за гэты замах закатавалі, — лічаныя старонкі. Задужа яркія фігуры, поруч з якімі паставіла яе гісторыя, — Пяроўская, Жалябаў, Кібальчыч — не маглі яе не засланіць. Ды і надта сціплыя захаваліся пра яе звесткі.

Па зернетку, па фразе, па штрышку збіраючы гэтыя звесткі ў адно, супастаўляючы іх і спрабуючы накідаць больш-менш акрэсленае чалавечае аблічча, звяртаеш увагу на цікавую акалічнасць: штуршком, які перайначыў жыццё гераіні нашага апавядання, які адарваў яе ад затхласці бацькоўскага дома і зрабіў урэшце Гесю Гельфман **Гесяй Гельфман**, — якраз і было абуджэнне ў ёй жаночай годнасці, усведамленне высокага права і шчасця кахаць, дзівосны па тым часе і ў тым асяроддзі, да якога належала яна сваім нараджэннем, пратэст супраць абразы гэтага права.

Гэта былі 70-я гады мінулага стагоддзя, і гэта быў тагачасны Мазыр. Павятовы гарадок у мяжы аселасці. Беспрасветнае царства патрыярхальнага цемрашальства.

У дарэвалюцыйнай «Яўрэйскай энцыклапедыі», якая выпускалася ў Пецярбурзе на рускай мове ўжо многа пазней і выпускалася людзьмі, канечне ж, іншай духоўнай культуры, чым скучаная ў мястэчках і гарадках накшталт Мазыра асноўная маса расійскага яўрэйства, я шукаў артыкул аб каханні. Не знайшоў. «Любовь к богу» — гэта калі ласка. І «любовь к ближнему» аж тры калонкі набору. А «любовь» проста, каханне — нібы нешта дужа ж грэшнае, непажаданае, ганебнае. Пра яго не ўпамінаецца нават у пералічэнні паміж іншым, дзе названы яшчэ — цытую даслоўна — «любовь супружеская (не смешивать с любовью половой) и любовь между детьми и родителями».

Прадчуваю недаўменне таго-сяго з чытачоў: маўляў, а памянёная ўжо «Песня песень» — як жа з'явілася яна? «Песня песень» з яе трапяткімі легендамі пра каханне, накшталт той, што так усхвалявана і пяшчотна пераказана Купрыным у славутай аповесці «Суламіф»...

Далёкая, як зоркі ў небе, біблейская даўніна. Бабуля-гісторыя, калі яшчэ толькі складваліся каноны пазнейшай яўрэйскай рэлігійнай маралі. А пад час, пра які мы расказваем, гэтым канонам-кайданам ужо шмат стагоддзяў. Закасцянела, застыгла ў мяжы аселасці сярэднявечча. Новую сям'ю нараджае выключна воля бацькоў. Здараецца, малады ўпершыню сваю жонку пасля вянчання бачыць—вянчаецца ж нявеста з прыкрытым тварам! Якое ўжо тут каханне, якая тут «Песня песень»...

Вось і Гесі Гельфман на шаснаццатай яе вясне названы суджаны, якога ніколі яна не бачыла, пра якога ніколі не думала. Равесніцы ёй зайздросцяць: пра жаніха вядома, што ён «кніжнік». А выйсці за такога лічыцца гонарам. Нічога, што «кніжнікі» — гэта значыць, мужчыны, дасведчаныя ў свяшчэнным пісанні, тлумачальнікі талмуда — як правіла, паўнюткія паразіты ў сямейным жыцці: да хатніх спраў, да мірской мітусні з вышыні недаступнага невукам клопату не апускаюцца.Затое ён будзе ўдзельнічаць у спрэчках мудрэйшых у малітоўным доме. Затое рабін будзе з ім здароўкацца амаль як з роўным...

Але Геся толькі-толькі прыехала ад сваякоў з Бярдзічава. Ад сваякоў, дзе дыхалася лягчэй, чым пад бацькавым дахам. Дзе чыталіся газеты, вяліся асветныя размовы, дзе яна, Геся, — барані божа, не ставячы пра гэта ў вядомасць бацькоў — вывучыла рускую грамату, пазнаёмілася з такім імем — Бялінскі. Яна не вярталася адтуль ледзь не цэлую зіму, хоць выправілі яе на тыдзень-другі—пагуляць на вяселлі. Не вярталася, пакуль пісьмы з Мазыра не сталі грозна-патрабавальныя.

І вось цяпер Геся наважваецца пярэчыць. Гаворыць словамі, якіх начулася там, у Бярдзічаве. Пра свае шаснаццаць гадоў — усяго толькі шаснаццаць. Пра тое, што не можа стаць жонкай чалавека, якога ніколі не бачыла.

Бацька паціскае плячыма. Бацька кідае вокам на жонку — бачыла калі-небудзь такое?

У мачыхі крывая ўсмешачка — маўляў, сам вінаваты. Хто гэта адпускае такую дзяўчыну ў дом, дзе гаспадыня — падумаць толькі! — не пагаліла галавы і носіць уласныя валасы, а не парык, як належыць прыстойнай замужняй яўрэйцы.

Шадхену — прафесіяналу-свату, які браў на сябе турботы пра шлюб—абвяшчаецца, што вяселле адбудзецца, як і дамаўляліся, праз месяц.

...Я выразна ўяўляю спалохана-аціхлы дом Меера Гельфмана — заможны дом паважанага ў акрузе лесапрамыслоўца — на досвітку перад тым абвешчаным вяселлем. Ужо прыгатаваны падарункі, якія, згодна звычаю, прынясуць ад нявесты жаніху, каб прывесці яго на вянчанне. Ужо кіпяць на кухні катлы і даўно прыкінута, размеркавана, хто з гасцей за які стол і ў якім суседстве сядзе. Ужо вось-вось жанчыны павядуць нявесту ў купальню на рытуальнае перадвянечнае абмыванне. І тут выяўляецца раптам: нявеста... уцякла!

Уяўляю збялелыя вусны бацькі — суровага рупліўца законаў і звычаяў продкаў.

Уяўляю апалую, тонкагубую фізіяномію мачыхі — людзі не зманяць, людзі ведаюць, яна заўсёды гэтае ваўчанё не любіла.

Уяўляю, як неўзабаве закруціліся каля дома суседзі. Гуд, гвалт у павятовым Мазыры...

Бацька пракляў Гесю. Ад гэтага часу дачкі з такім імем у Меера Гельфмана няма і не было.

●

ГЭТЫ НАРЫС — не біяграфія Гесі Гельфман. Гэта расказ пра яе каханне. І калі ўсё-такі біяграфія не абмінаецца, то проста таму, што дужа ж пераплецена было тое каханне з усім, што Геся рабіла. Больш таго — яно было вынікам, нават у пэўнай ступені ўвасабленнем духоўных яе імкненняў, жыцця, што перад ёю адкрылася.

Але гэта — пазней.

А спачатку — Кіеў. Залатаверхі, белакаменны Кіеў над Дняпром-Славуцічам.

Яна ніколі не бывала ў такім вялікім горадзе. Яна ніколі не бачыла так многа людзей. З радаснай, хоць і ўстрывожанай цікавасцю ўглядаецца яна ў стракаты натоўп на вуліцах, дзівіцца яго нязмушанасці, яго свабодным манерам, яго смяшлівай, бесклапотнай гаворцы.

Ёй нясоладка. Не так гэта проста — адной-аднюткай апынуцца на семнаццатым годзе далёка ад дому, хай нямілага, але ўсё-такі бацькоўскага і ўсё-такі сытага. Не так гэта лёгка — з дня на дзень сляпіцца над чужым шытвом (о, гэты страх ускраіннай краўчыхі, што дзяўчаты-памочніцы перапаляць газы!), і з дня на дзень на заробленыя капейкі галадаць. Ды яшчэ калі шчыміць табе ў сэрцы той бацькаў праклён. А ён шчымеў ёй усё жыццё. Не страхам, вядома, а болем — хоць і як жа далёкія былі ёй людзі, што ў цемры і слепаце душэўнай лічылі яе ганьбай і горам сваім, а ўсё-такі блізкія, усё-такі крэўныя. Уладзімір Ільіч Іахельсон, нарадаволец, якому доўга давялося жыць разам з Гельфман на канспіратыўнай кватэры, праз многа гадоў пісаў: «Увогуле шчырая і гаваркая, Геся неахвотна расказвала пра сваю сям'ю, пра сваё дзяцінства; відаць, таму, што яе любячай душы нялёгка было ўспомніць нядобрым словам тых, хто вінаваты быў у яе невясёлым маленстве і цяжкім юнацтве, але да каго тым не менш яна захавала пачуццё адданасці...»

Ёй нясоладка. Але ўсе, каму даводзілася з ёю сутыкацца, — і тады, у Кіеве, на самым пачатку яе духоўнага паўналецця, і пазней, у Пецярбурзе, калі перакананні яе ўжо выразна акрэсліліся, калі стала яна вынаходлівым, мужным практыкам рэвалюцыйнага падполля, — як найпершую якасць яе натуры адзначаюць дзівосную добразычлівасць, глыбокую самаахвярнасць. «Яна была... заўсёды гатовай на ахвяру, — чытаем ва ўспамінах Вольгі Любатовіч, віднага аўтарытэтнага дзеяча «Народнай волі», члена яе Выканаўчага камітэта. — Усё яе жыццё — суцэльная ахвяра... Яна ўмела любіць...»

Пройдзе не так многа часу, і гэтая якасць характару Гельфман выявіцца ва ўчынках палымяна-гераічных, у подзвігу. А пакуль што яна — у гатоўнасці падзяліцца апошнім з таварышкай-швяёй, у спагадзе — аж да поўнага забыцця сябе — чужой турботе, нястачы, бядзе. І зразумела, што і ёй адказвалі ўдзячнасцю, да яе хіліліся.

Сваю дарогу шукала яна нядоўга. Паўплывала тут і грамадская тэмпература горада — тагачасны Кіеў жандары нездарма лічылі «гадавальнікам нігілізму». Заявіла сябе і неспатоленая духоўная смага. Яна ж не проста пераехала з маленькага горада ў вялікі. Яна нібы вырвалася з сярэднявечча, з пятнаццатага ці шаснаццатага стагоддзя — у канец дзевятнаццатага,у час, пазначаны на календары. Вока яе, вуха, мозг, душа, сэрца прагна заўважаюць, паглынаюць, пераймаюць...

З большага асталяваўшыся, пасядзеўшы па начах над падручнікамі, якія мазырская радня абвясціла б, мабыць, паганымі для прыстойнага дома, яна паступае на акушорскія курсы. Наведвае публічныя лекцыі ва універсітэце. Слухае рэфераты і іх абмеркаванні ў гуртках самаадукацыі. Ненасытна многа чытае.

Дзяўчына, якая пачала з пратэсту супраць прыніжэння асабістай жаночай годнасці, з асэнсавання асабістага свайго права быць гаспадыняй уласнага лёсу — гэтая дзяўчына ўзнімаецца да ўсведамлення правоў агульнанародных, да змагання супраць несправядлівасці грамадскай, сацыяльнай.

Нейкі час, праўда, на вачах яе — нацыянальныя шоры. У шырокім коле праблем, якія займаюць яе новых знаёмых, ва ўсхваляваных іх спрэчках найбольш яна прымае да сэрца праблемы непасрэдна яўрэйскія, нараканні і крыўды, падобныя на тыя, што запомніліся ёй яшчэ з Бярдзічава. Але настрой і размовы бярдзічаўскіх сваякоў былі куды як прагрэсіўныя ў параўнанні з тым, што яна чула і бачыла ў Мазыры. У параўнанні ж з тым, да чаго далучылася ў Кіеве, то быў бурлівы, але мелкі раўчук поруч з шырокаплынным магутным Дняпром.

Ёй нямнога спатрэбілася часу, каб гэта зразумець. І захапіцца ідэяй, у якой быў ужо не нацыянальны, а класавы грунт. Памятаеце арцелі Веры Паўлаўны з рамана Чарнышэўскага? Дык вось у Кіеве знайшліся ідэалісткі, якія палічылі такія арцелі верагоднасцю, рэальнай магчымасцю палегчыць становішча работніц-швей. Наша гераіня — сярод іх. Яна ж і сама папранейшаму жыла на мізэрны заробак краўчыхі.

Пачынанне было кніжнае, утапічнае. Перспектывы яно не мела і мець не магло. Але гарачы ўдзел у ім яшчэ бліжэй пазнаёміў Гельфман з крамольнікамі-інтэлігентамі, з «прапагатарамі», як называліся яны ў жандарскіх рэляцыях. І калі ў 1875 годзе ў Кіеў прыязджаюць прадстаўніцы маскоўскага рэвалюцыйнага гуртка, які паставіў сабе мэтай пашырэнне сацыялістычных ідэй сярод рабочых, (яго заснавалі былыя цюрыхскія курсісткі; па імю гаспадыні дома, дзе амаль усе яны жылі ў Цюрыху, іх называлі «фрычы») — Геся сустракае іх ужо як гаспадыня канспіратыўнай яўкі.

Нельга без хвалявання чытаць ва ўспамінах Вольгі Любатовіч:

«Калі летам 1875 года я праездам з Адэсы ў Маскву і Тулу зайшла ў Кіеве на кватэру Гесі Гельфман, яе не было дома. Мне давялося доўга чакаць, я была вельмі стомленая з дарогі, і хоць з Гесяй зусім яшчэ не была знаёмая, але з прастатой і даверлівасцю маладосці прылегла да яе на пасцель і заснула. Не ведаю, ці доўга я спала, але я прачнулася ад пацалунка. Уся ахінутая яшчэ сном, я расплюшчыла вочы. Да мяне схілілася маладая кучаравая жаночая галоўка, прыветная і ўсмешлівая, у ззянні неймавернай дабрыні. «Вы Гельфман?» — спытала я. «Так, я — Гельфман, я доўга глядзела на вас, — працягвала яна, — на ваш спакойны, спакойны твар, і я палюбіла вас адразу і не стрымалася — пацалавала». Мы сталі з таго часу сябрамі...»

Яна была натура добрая, адкрытая, эмацыянальная. І з людзьмі стала сутыкацца незвычайнымі, яркімі, рамантычнымі. Зразумела, што яны выклікалі ў яе захапленне і збянтэжанасць. Зразумела, што і каханне сваё напаткала яна менавіта ў гэтым асяроддзі.

●

ХТО ЯГО НІ прыгадвае, сведчыць: гэты чалавек быў сярод лепшых — з лепшых.

Аляксандр Дзмітрыевіч Міхайлаў, адзін з найбольш аўтарытэтных правадыроў «Народнай волі»:

«... Каладкевіч* —сапраўдны апостал свабоды. Такія чыстыя, такія простыя, такія велічна-прыгожыя яго ўчынкі, яго словы, яго рухі...»

Аркадзь Уладзіміравіч Тыркоў, у 1881 годзе студэнт Пецярбургскага універсітэта, адабраны Жалябавым і Пяроўскай сігналістам у групу ўдзельнікаў замаху 1-га сакавіка:

«...Каладкевіч пакінуў у ва мне ўражанне чалавека ў вышэйшай ступені высакароднага, з характарам, і калі суровага, дык толькі ў адносінах да сябе...»

Невядомы аўтар нататак з «працэса дваццаці», зме-



**Геся Гельфман**

*«...Яе твар дыхаў дабрадушнасцю, прыветнасцю і заўсёды ўсміхаўся: ён быў рашуча сімпатычны...»*

**Вера ФІГНЕР.**

* У частцы літаратуры яго называюць Калаткевіч. Мы будзем трымацца больш пашыранага напісання. Да таго ж так—у «Гістарычнай энцыклапедыі».

шчаных у дадатку да газеты «Народная воля» № 8 — 9:

«...Самы выразны твар у Каладкевіча. Яму, відаць, цяжка стрымліваць гнеў, але сіла волі адольвае: ён стрыманы, спакойны...»

Сведчанні гэтыя, праўда, пазнейшых гадоў — калі быў Каладкевіч ужо не ў Кіеве, а ў Пецярбурзе. І яшчэ пазнейшых — калі гібеў у Аляксееўскім равеліне Петрапаўлаўскай крэпасці, з муроў якога і не выйшаў. А ў той вірлівы, імклівы час людзі, здаралася, крута, непазнавальна мяняліся ў адзін год, не тое, што ў некалькі. Ды ў натуры чалавечай дзівосная ўласцівасць: калі мяняць з узростам светапогляд, дык управа, калі мяняць характар, дык да горшага. Выключэнні вельмі рэдкія і фактычна пацвярджаюць правіла. Калі ж Каладкевіч вабіць сваёй душэўнай прыгажосцю у Пецярбурзе, то, трэба думаць, такім самым быў ён і на пяць гадоў раней, у Кіеве. Трэба думаць, і поспех яго ўздзеяння на таварышаў шмат у чым абумоўліваўся гэтай яго чалавечай прывабнасцю. А той самы Аляксандр Дзмітрыевіч Міхайлаў у сваіх аўтабіяграфічных нататках, прыгадваючы кіеўскі перыяд аднаго віднага народніка, між іншым, зазначае: «...ён бываў у гуртку Каладкевіча, які тады сядзеў у турме і карыстаўся ўжо вялікай папулярнасцю...»

І вось—Каладкевіч сустракаецца на жыццёвай дарозе Гесі Гельфман. Гесі Гельфман з яе ўражлівасцю, з яе трапяткой павагай да людзей, што прымалі яе ў свой круг.

Яна шмат што чула пра яго ад новых сваіх знаёмых. Яна ведае, што ён сын чарнігаўскага памешчыка. Што вучыўся ў нежынскім ліцэі, вывучаў хімію ва універсітэце ў Адэсе, зараз тут, у Кіеве, на медыцынскім. Ведае, што за гурткоўцамі яго і, зразумела, за ім самім цікуе паліцыя. Яна — магло быць і такое — зазначае сабе пры знаёмстве, што і з твару яго ўжо ведае, прыкмячала ва універсітэцкім калідоры: курсісткі-акушоркі займаліся ў адным корпусе са студэнтамі-медыкамі, а твар Каладкевіча, успамінае Вера Мікалаеўна Фігнер, «быў надзвычай выразны, нельга было прайсці паўз яго і не заўважыць...» І таму, што прыкмячала... ёй робіцца ніякавата! «Традыцыйны погляд, што шпіёны павінны мець агідную знешнасць, прымусіў мяне ў здзіўленні спыніцца перад тварам гэтага цудоўнага таварыша і чалавека,— піша Фігнер пра першую сустрэчу з Каладкевічам на Варонежскім з'ездзе «Зямлі і волі».—Я глядзела на гэты твар рашуча з недаверам і падазронасцю: на вуліцы я прыняла б яго абавязкова за шпіёна...» Гэта Фігнер, фігура на час знаёмства з Каладкевічам першарадная ў рэвалюцыйным асяроддзі, чалавек непараўнанага з гесіным інтэлекту і душэўнага вопыту. Чаго ж чакаць ад нашай гераіні! Так і бачу, як зашываецца яна ў куток, хаваючыся за плечы таварышаў, агорнутая раптоўнай трывогай, у прычыне якой, забі-зарэж, нікому не прызнаецца. І нічога не чуе — глядзіць. «Перш за ўсё кідаўся ў вочы лоб, адкрыты і незвычайна развіты, з вялікімі буграмі, — чытаем далей у тых самых успамінах Фігнер, — потым шэрыя вочы, сур'ёзныя, суровыя: на партрэце гэтыя вочы глядзяць прама і спакойна, звычайна ж яны глядзелі спадылба. Вялізная чорная барада пры гэтым ілбе і вачах рабіла яго фізіяномію крайне рэзкай і страхалюднай сваёй панурай хмурнасцю...»

Праходзіць тыдзень-другі, і Геся, вядома, смяецца са свайго першага страху. «Пры бліжэйшым знаёмстве выяўлялася паўнюткая неадпаведнасць паміж суровай знешнасцю і пяшчотнай і гуманнай душой Каладкевіча... Адносіны з ім былі сапраўднай асалодай, і гэтыя адносіны зусім мянялі першапачатковае ўражанне...» Але ці можа быць ярчэйшая прадумова для нараджэння вялікага і глыбокага пачуцця, чым такая вось гарачая папярэдняя цікавасць да чалавека перад знаёмствам з ім, нечаканасць і незвычайнасць уражання пры першым знаёмстве, адкрыццё для сябе іншай многа лепшай асобы пры знаёмстве далейшым?.. Ды яшчэ калі раней жанчына нічога блізка падобнага да такога пачуцця не адчувала. Ды яшчэ калі ў яе сэрца Гесі Гельфман...

Сяброўскаму збліжэнню іх, узаемнай сімпатыі спрыяла, мусіць, і знешняе непадабенства характараў. Даўно ж заўважана — школьны закон фізікі аб узаемапрыцягненні процілеглых зарадаў патрапляе і на чалавечыя адносіны. А ва ўспамінах Іахельсона чытаем пра тагачасную Гесю: «Ледзь толькі наладжвалася якое-небудзь калектыўнае пачынанне — вечарынка там, агульны стол або арганізацыя братэрскай дапамогі—Гельфман, нібы па прыроджаным праве, з'яўлялася гаспадыняй і распарадчыцай. Пры гэтым, апроч умельства, яна выяўляла рэдкую дозу зычлівасці і заразлівай сардэчнай весялосці, што даходзіла часам да дурыкаў. Наслухаўшыся з асалодай і карысцю чытання добрых кніжак і разумных размоў, яна любіла ўволю накарміць гасцей прадуктамі ўласнага прыгатавання... праспяваць ім народную песню з прыцокваннем і прытанцоўваннем...» І ва ўспамінах Фігнер таксама: «Яе твар дыхаў зычлівасцю і заўсёды ўсміхаўся: ён быў рашуча сімпатычны, і яшчэ больш вабіў да Гесі тонкі і звонкі галасок яе..»

Магло быць і так, што пачуццё, якое нараджалася (ці нарадзілася адразу?) у Гесіным сэрцы, таксама было пратэстам, хай неўсвядомленым, на прыкры гвалт з дзявочых летуценняў, што давялося ёй перажыць у Мазыры. Нібы вырвалася, акрыяла ў шчаслівым яе смеху пры сустрэчах з пахмурым, маўклівым, барадачом (спачатку проста ад таго, што яна яго бачыла!) прыдушаная, пахаваная ў колькіх салёных ад слёз падушках нязбытная мара тысяч равесніц-супляменніц, ды што равесніц — бабак, прабабак, прашчурак... Вядома, прытоена пачуццё глыбока-глыбока нават ад самой сябе. Ён — чалавек-легенда, інтэлект, важак, асоба ў самым высокім сэнсе гэтага слова. А яна? «Памятаю, у гэты час я пазнаёміўся ў Кіеве з Гесяй Гельфман, — прыгадвае ў мемуарах адзін з арганізатараў народніцкага руху на Украіне Уладзімір Карпавіч Дэбагорый-Макрыевіч. — Яна працавала ў швейнай майстэрні, наладжанай на асацыятыўных асновах. Гельфман падалася мне вельмі маўклівай, сціплай дзяўчынай...»

Маўклівасць не з'яўлялася адметнай яе рысай. Паводле ўспамінаў Іахельсона, хутчэй ёй уласціва была нават залішняя часам правінцыяльна-жаночая гаварлівасць. А змаўкала яна, рабілася збянтэжана-сціплай — зноў жа пашыраная правінцыяльна-жаночая ўласцівасць — калі ўсведамляла, хай з глыбокай пашанай да яго, сваю з субяседнікам няроўнасць.



**Мікалай Каладкевіч**

*«...Пры бліжэйшым знаёмстве выяўлялася паўнюткая неадпаведнасць паміж суровай знешнасцю і пяшчотнай і гуманнай душой Каладкевіча...»*

**Вера ФІГНЕР.**

Так было, мусіць, з Дэбагорыем-Макрыевічам. Так, хутчэй за ўсё, бывала на той пары знаёмства і з Мікалаем Мікалаевічам Каладкевічам.

Ды і справы, якія зрабіліся для яе ўжо галоўнымі ў жыцці, складаліся так, што на інтымна-асабістае даводзілася забыцца.

●

ЯНЫ ПРАДЧУВАЛІ будучую да іх цікавасць. Яны прадбачылі, з якой любоўю, трапятлівасцю і прагнасцю будзем мы схіляцца над радкамі іх рукапісаў, пратаколамі допытаў, спрабуючы ўзнавіць па почырку і лексіцы ступень магутнасці духу, па складцы ля вуснаў на фатаграфіі — рысы характару. Аляксандр Міхайлаў — самы асцярожны, самы дысцыплінаваны, самы патрабавальны канспіратар сярод кіраўнікоў «Народнай волі» — трапіў у лапы жандармерыі менавіта таму, што, не зважаючы на папярэджанне таварышаў, пайшоў у фатаграфію, дзе рабіліся для жандарскіх патрэб фотаздымкі арыштаваных рэвалюцыянераў. Хацеў, каб гэтыя здымкі мела і падполле. Для нас, нашчадкаў...

У 1879 годзе, пасля бурлівых дыскусій, пры рэзкім адмежаванні ад учарашніх сяброў, што не прымалі выбраную новай рэвалюцыйнай партыяй тактыку тэрору, нарадавольцы паставілі сабе асноўнай мэтай на бліжэйшыя гады забойства цара. Амаль усе яны разумелі, чаго гэта будзе каштаваць — усё роўна, удасца ці не ўдасца задуманае. І менавіта таму рэдакцыя газеты «Народная воля» папрасіла найбольш актыўных членаў арганізацыі накідаць і перадаць у газету хаця б кароткія аўтабіяграфічныя звесткі. Зноў жа для нас, нашчадкаў. Да глыбокага жалю, адзін толькі чалавек адгукнуўся на гэтую просьбу — той самы Аляксандр Міхайлаў.

Мы не ведаем, ці звярталіся з такой просьбай да Гесі Гельфман. Наўрад. Хоць Сяргей Міхайлавіч Сцяпняк-Краўчынскі і пісаў пазней у нарысе, прысвечаным яе памяці, што «сціплая палявая кветка часта дае больш правільнае ўяўленне пра флору мясцовасці, чым якая-небудзь дзівосная і рэдкая расліна», гэта была ўсё-такі «сціплая палявая кветка». Не дужа прыкметная, калі поруч багата «дзівосных і рэдкіх раслін». Але калі б і звярнуліся, калі б нават адолелі яе сціпласць, угаварылі, Геся была... задужа малапісьменная, каб гэткую просьбу выканаць! У адной з брашур пра яе, праўда, сцвярджаецца, быццам яна выступала нават з артыкуламі — у яўрэйскіх газетах, бо па-яўрэйску была граматнейшая, чым па-руску. Але пазнейшыя даследчыкі выявілі, што гэта ёй проста былі прыпісаны артыкулы іншай Гельфман, яе цёзкі.

І вось у выніку мы знаходзім сёння дастаткова выказванняў, што гераіня наша ў Кіеве «дапамагала», «удзельнічала» і г. д., ды толькі дужа ж мала штрыхоў і дэталяў, так сказаць, прадметнага, канкрэтнага выяўлення гэтых не вельмі выразных агульных азначэнняў. Атрымліваецца, як у іншага малавопытнага драматурга: у п'есе, здаецца, і задума выразная, і дыялог не скажаш, што кепскі, а іграць акцёрам усё роўна цяжка, бо не стае матэрыяльнага асяроддзя, сцэнічнага дзеяння — ну чым заняты ў персанажа рукі, калі ён вядзе з партнёрам разумную размову?..

Вядома нам толькі, што на працягу вясны і лета 1875 года Гельфман была чалавекам, праз якога заснаванае цюрыхскімі курсісткамі таварыства — яно называлася «Усерасійская Сацыяльна-Рэвалюцыйная Арганізацыя» і на гэты час ужо разраслося, мела гурткі ў Маскве, Туле, Іванава-Вазнясенску, Адэсе — падтрымлівала сувязь са сваімі прадстаўнікамі ў Кіеве. Яна была з ліку тых сціплых працаўніц, якія, паводле ўсхваляваных слоў Сцепняка-Краўчынскага, «бяруць на сябе самыя няўдзячныя ролі; ахвяруюць сабой з-за дробязей, — з-за адрасу для перапіскі, з-за хавання часта зусім невядомага ім чалавека; з-за адпраўкі пасылкі, у якой яны не ведаюць, што змяшчаецца. Паэт не прысвеціць ім натхнёнага верша, гісторыя не ўпіша іх імёны на свае старонкі; нашчадкі не ўспомняць пра іх з удзячнасцю. І, аднак, без іх работы партыя не магла б існаваць, і ўсялякая барацьба страціла б сэнс...»

Яна і сама бывае як «прапагатарка» сярод фабрычнага люду. Яна збіраецца — уплыў часу — «ісці ў народ». Нават пасяляецца з таварышкай на колькі часу ў Кіева-Пячэрскай лаўры — адсюль зручна рушыць у дарогу багамолкамі...

Правал. Як гэта звычайна здаецца — прыкры, нечаканы, крыўдны.

Далёка ад Кіева, у Туле, да паліцмайстра з'явіўся ў верасні рабочы Кавалёў. З павіннай. Занепакоіўся, дачуўшыся пра арышты ў Маскве і Іванава-Вазнясенску. Паведаміў Кавалёў, што нехта Махоткіна і тут, у Туле, складае крамольную суполку, што ў гэтую суполку патрапіў і ён, і што вясною і летам, калі быў яшчэ ў Кіеве і працаваў на цукровым заводзе, таксама быў знаёмы з асобамі накшталт Махоткінай, сярод іншых, прынамсі, з акушоркай Гельфман. На кватэры Махоткінай зрабілі вобыск. Высветлілі, што ніякая гэта не Махоткіна, а даўно запрыкмечаная трэцім аддзяленнем Вольга Любатовіч. І ў ліку знойдзеных падазроных рэчаў адзначылі пісьмо. Яўна зашыфраванае. У Кіеў. На адрас той самай названай Кавалёвым акушоркі Гельфман.

Неадкладны сігнал у Кіеў, і 9 верасня вобыск робіцца ўжо на кватэры Гельфман. Чыста. Нічога, што магло б выклікаць падазронасць. Ды напалоханая гаспадыня скардзіцца, што сама ўжо даўно адчувае няладнае. Што дужа ж многа яе кватарантцы прыходзіць пошты. Што дужа ж часта для прыстойнай дзяўчыны збіраюцца кампаніі. Што дужа ж негаваркія, хоць і ветлівыя, прыязджаюць і начуюць сяброўкі...

Гесю вядуць ва ўчастак, а ў пакоі пакідаюць філёраў. І ў бліжэйшыя ж дні ў паліцэйскае сіло трапляюць важныя птушкі — «масквічкі» Харжэўская, Варанкова, Младзецкая. Трапляюць новыя зашыфраваныя пісьмы. Трапляюць прысланыя на імя Гельфман трыста рублёў, якія яна мусіла перадаць «таму, каму належыць»...

Словам, праз паўтара гады, калі пачынаецца славуты «працэс пяцідзесяці» — працэс, які судзіць заснаваную цюрыхскімі курсісткамі арганізацыю і ў час якога сядзяць на лаве падсудных шмат якія з Гесіных таварышаў і сама яна — абвінавачанне мае «поўны доказ таго, што асобы, якія склалі кіеўскую суполку, належаць да аднаго таварыства з суполкамі іванаўскай і тульскай, а разам з тым дастаткова вызначыўся і характар кватэры акушоркі Гельфман, як месца, дзе засяроджваліся ўзаемныя зносіны іншых суполак з суполкаю кіеўскай».

Гэтага вядома, хапала, каб атрымаць ад «особого присутствия» сената два гады «рабочага дому»...

●

УБАЧЫЛІСЯ зноў ужо ў Пецярбурзе.
На сыходзе 1879-га.
Больш як праз чатыры гады.
Цяжкія гады для іх абоіх.

Для яе — гэта васемнаццаць месяцаў папярэдняга зняволення, пакуль рыхтаваўся суд; семсот трыццаць дзён і начэй у злавесна вядомым Літоўскім замку пасля абвяшчэння прыгавору: паўгода — пакуль не ўцякла — абразлівага існавання пад наглядам паліцыі ў высылцы...

У 1917 годзе, у дні лютаўскай рэвалюцыі, Літоўскі замак быў урачыста спалены — паўстанцы-петраградцы як бы спатолілі даўнюю, яшчэ ад дзедаў і прадзедаў перанятую нянавісць. Былі, вядома, у Расіі, у самім Пецярбурзе, і страшнейшыя турэмныя муры — хоць тыя самыя Петрапаўлаўская і Шлісельбургская крэпасці. Ды вось жа менавіта так званая гарадская турма — змрочная сямівежавая камяніца Літоўскага замка — стала ўвасабленнем прыніжэння, знявагі, езуіцкага здзеку з чалавечай годнасці.

У адзіночных камерах Петрапаўлаўкі і Шлісельбурга найбольш нябяспечныя, з пункту гледжання царызму, палітычныя вязні лічы, што зажыва хаваліся. Але калі ў Літоўскім замку палітычнага кідалі, як Гесю, аднаго ў гайню крымінальнікаў — хіба не тая самая была то адзіночка, толькі хітрэйшая, маральная? Хіба, маўкліва патураючы зларадным здзекам старых гніларотых зводніц, прастытутак і зледзеек самага ніжэйшага гатунку з «чысценькай», якая не іх поля ягадка, не кіравалася турэмнае начальства цынічным разлікам на нервовае знясіленне гэтай зняволенай, на яе душэўны надлом і расчараванне? Праўда, К. К. Брэшка-Брашкоўская, якая добра пачынала — баявой, мужнай народніцай, — і кепска кончыла — зацятым ворагам Савецкай улады, белаэмігранткай — ідылічна малюе сустрэтую ёю ў Літоўскім замку Гельфман «мілым знойдзеным дзіцём», «агульнай любіміцай», што «сваёй прысутнасцю выводзіла нас з вобласці сур'ёзных размоў у свет звычайнага, але хутчэй радаснага жыцця, зззяючага іскрамі дасціпных перажыванняў...» Але, па-першае, Брэшка-Брашкоўская трапіла ў Літоўскі замак на няпоўныя два месяцы ў сярэдзіне 1878 года, калі ўмовы ўтрымання Гельфман сапраўды на нейкі час крыху палепшыліся — вялікасвецкая апякунка турмы пахадайнічала, каб упадабаную чарнявенькую арыштантку перавялі на лягчэйшыя работы, каб ёй дазволілі атрымліваць прадукты з волі і бываць у таварышак з аддзялення прывілеяваных. Па-другое, дваранка Брэшка-Брашкоўская мела досыць цьмянае, з чужых вуснаў, уяўленне, як жылося ў аддзяленні непрывілеяваных, ды яшчэ Гельфман, яўрэйцы. І па-трэцяе — будзем шчырыя — на гэтых мемуарах, напісаных і апублікаваных на схіле бурлівага жыцця аўтара, наогул дужа многа налёту, мякка кажучы, узроставай замілаванасці — ах, якія мы былі ў маладосці харошыя, ды прыгожыя, ды дружныя...

Сведчанне Іахельсона, які ведаў Гельфман многа бліжэй і пазнаёміўся з ёю якраз неўзабаве пасля ўцёку яе са Старой Русы, з высылкі, куды менш ідылічнае:

«Знаходжанне ў рабочым доме пакінула на ёй непазбыўныя сляды. Нажытая ў ім хвароба (хранічны катар страўніка) так і не праходзіла ўжо да самай смерці. Хто ведаў яе раней у Кіеве, не мог надзівіцца тым маркотным зменам, што злашчасныя два гады знаходжання ў Літоўскім замку зрабілі перш за ўсё ў самой яе знешнасці. Яна дужа схудала; знік румянец, што не сыходзіў раней з яе смуглявага твару, які меў цяпер найчасцей стомлены выраз. З тым разам знікла і невычэрпная весялосць,

МАЗЫРСКАЕ музычнае вучылішча — новы асяродак культуры на беларускім Палессі. Другі год 150 юнакоў і дзяўчат з Гомельскай, Мінскай, Магілёўскай абласцей і некаторых раёнаў Украіны авалодваюць тут тэхнікай выканаўчага майстэрства і асновамі музычнай педагогікі. У вучылішчы 5 аддзяленняў: фартэпіяна, народных, духавых, струнных інструментаў і харавое. Навучэнцы часта выступаюць з канцэртамі перад працоўнымі Мазыра, Калінкавіч, Ельска і іншых гарадоў і сёл Гомельшчыны. А ў дні работы XXIV з'езда КПСС ім апладзіравалі жыхары беларускай сталіцы.

Міне некалькі гадоў — і сённяшнія выхаванцы вучылішча папоўняць атрад работнікаў культуры Палесся.



Іграе першакурсніца струннага аддзялення скрыпачка Ірына Браткова.



Педагог Вадзім Лявонцьевіч Яканюк вядзе заняткі з навучэнкай II курса фартэпіяннага аддзялення Людмілай Шурцавай.



Навучэнка II курса струннага аддзялення кантрабасістка Валянціна Сяўрук і загадчыца навучальнай часткі музычнага вучылішча Аляксандра Якаўлеўна Сярак.

Фота Ч. МЕЗІНА. (БЕЛТА).



— ВЕКАПОМНАЕ —

# ЯНКА

**ВА УСПАМІНАХ былога камандзіра Пінскай партызанскай брыгады Івана Георгіевіча Шубітыдзе ёсць такія радкі: «Адказныя заданні выконвала маладая разведчыца атрада імя Тадэвуша Касцюшкі Яніна Пастушак («Каліноўская»). Яна часта наведвала Пінск, Драгічын, Іванава і іншыя населеныя пункты, дзе размяшчаліся варожыя гарнізоны, і заўсёды прыносіла каштоўныя звесткі».**

**Я. Каліноўская — адна з гераінь кнігі Войцаха Казловіча «Жанчына ў барацьбе», якая нядаўна выйшла ў Польскай Народнай Рэспубліцы.**

**Прапануем чытачу ўрывак з гэтай кнігі ў перакладзе А. Шылавай.**

Было ёй тады дзевятнаццаць гадоў...

Гулялі з Евай каля касцёла на Хлоднай. Выглядалі так, нібыта дзве дзяўчыны чакаюць сваіх хлопцаў. Але прыйшоў толькі адзін. Назваўся «Франэкам». Для іншых ён мог быць «Вітальдам», для вельмі нямногіх — Юзвякам.

Мужчына ўзяў дзяўчат пад рукі:

— Янка, заўтра паедзеш у лес...

Ездзіла ў лес не адзін раз. Мела ліпавыя, але надзейныя дакументы. І добра ведала дарогу.

Перасадка ў Лукаве. Потым, ад станцыі Грудэк, знаёмая сцежка ў лес. «Франэк» гаварыў: «У цябе будзе таварыш... Памятай: у гэтага чалавека волас не павінен упасці з галавы.

«Чалавек» аказаўся сімпатычным, ужо немаладым, у паліняла плашчы. Ён сказаў:

— Называй мяне дзядзькам...

Зрэшты, у поездзе амаль што і не размаўлялі. Янка прыкідвалася, што дрэмле. У Лукаве трэба было чакаць некалькі гадзін. Знайшлі нейкае месцейка ў перапоўненай зале. «Дзядзька» разгарнуў газету. І раптам...

Жандар з сабакам спатыкнуўся на партфель «дзядзькі». Адвярнуўся і ўдарыў нагою ў плечы сядзеўшага на падлозе чалавека. І пайшоў далей, свістам клічучы да сябе ваўкадава.

«Дзядзька» ледзь прытомны. Такі раптоўны ўдар у крыж падкутым цяжкім ботам! Ледзь прытомная ад страху і Янка. Хтосьці прынёс вады, людзі саступілі месца на лаўцы. Мужчына цяжка дыхае. Хістаецца. Янка падтрымлівае яго і кажа:

...

У ЛЯСНЫМ атрадзе імя Тадэвуша Касцюшкі іх было семдзесят. Семдзесят жанчын і дзяўчат. Маці, жонкі, сёстры, якія ўцяклі з палаючых вёсак пад апеку партызан. Паслаўскія лясы былі выдатным сховішчам. Немцы баяліся пасылаць сюды нават карныя экспедыцыі. Жанчыны мылі бялізну, гатавалі ежу. І Янка Каліноўская абірала бульбу, гатавала абеды. Але аднойчы раніцою ўвайшла ў зямлянку камандзіра. Доўга маўчала.

— Вам што-небудзь трэба? — спрабаваў дапамагчы ёй начальнік штаба.

Кіўнула галавою і, бачачы запытлівы і крыху нецярплівы погляд, сказала:

— Наган...

□

Свечка давала цьмянае святло. Твары мужчын былі ў цяню. Але таго грузіна яна пазнала адразу:

— Баец Янка з'явілася па загадзе...

Хтосьці спытаўся:

— У вас ёсць зброя?

— Ёсць.

Начальнік штаба працягнуў руку:

— Аддайце...

Яе запальчывы пратэст абрэзаў кароткі загад:

— Аддайце!

Падцягнула блузку і з-пад паяска спадніцы выцягнула пісталет.

— Пойдзеш са мною, — грузін, які дагэтуль маўчаў, усміхнуўся дзяўчыне.

Яна ведала Івана Георгіевіча. Увесь атрад любіў камандзіра Пінскай партызанскай брыгады — палкоўніка Шубітыдзе... Ён быў не толькі баявы, адважны начальнік. У яго заўсёды было добрае слова для людзей, ласунак для хворага.

Цяпер Шубітыдзе падаваў Янцы нейкія паперы:

— Так будзеш называцца заўтра. Трэба паехаць у Камень-Кашырскі і адвезці ўказанні нашай ячэйцы. Не баішся?

Вяртацца зноў у горад, дзе поўна немцаў?! Вядома, баялася. Але ўсміхнулася і адмоўна кіўнула галавой.

□

— Можаце ісці.., — сказаў камандзір, калі Янка здала рапарт аб выкананні задання ў горадзе.

Дзяўчына не адыходзіла.

— А пісталет? — спыталася яна ціха.

— Ты што, без яго заснуць не можаш? — жартавалі мужчыны. Пачырванела.

□

— Ты ведаеш Варшаву? — мужчына глядзеў на яе ўважліва.

— Я жыла калісьці там разам з маці, — адказала Янка.

Некалькі дзён яны прабіраліся ва ўмоўленае месца — да леснічоўкі ў Парчэўскіх лясах. Мужчына сказаў коратка:

— Добра, паедзеш туды заўтра.

І вось наступіла гэта «заўтра». Янка, аглядаючыся, ідзе па вуліцы Нібы нармальны рух. Аўтобусы, трамваі, кудысьці спяшаюцца людзі. Толькі ў пустых вітрынах надпісы: мяса на карткі выдаецца ў пятніцу... Або — на мове чужынцаў: толькі для немцаў...

Кватэра на вуліцы Лешна. Але там поўна народу. Таму разам з Евай Патрыяс едзе да Хелены Паўлоўскай на Гурчэўскую. Шасціпавярховая камяніца. Некалькі дзён адпачынку.

Ева папярэджвае:

— Заўтра ў нас спатканне.

І Янка просіць:

— Завядзі мяне да цырульніка.

якая не пакідала яе ў ранейшыя гады, нават у самыя цяжкія хвіліны яе жыцця. Хто ведаў Гельфман толькі ў Пецярбурзе... прывыклі бачыць яе звычайна сур'ёзнай, і толькі выпадкамі, зрэдзь, вяртаўся да яе ранейшы бесклапотны настрой...»

Для Каладкевіча таксама яны поўныя выпрабаванняў, гэтыя чатыры гады.

Пачаць з таго, што ён даўно ўжо нелегальны, бо паліцэйскі рахунак да яго расце і расце. У 1882 годзе, калі на гучным «працэсе дваццаці» вырашаўся яго лёс, абвінаваўчы акт, прынамсі, нагадаў яму, што «...дазнанні пачыналіся супраць Каладкевіча: у 1875 г. — у Чарнігаўскай губерні; у 1876 г. — за распаўсюджванне рэвалюцыйных выданняў у гор. Харкаве; у 1877 г. — за арганізацыю тайнай суполкі сярод сялян Чыгірынскага павету, Кіеўскай губерні; у 1878 г. — за ўдзел у вызваленні з Харкаўскага турэмнага замка арыштанта Фаміна* і ў 1879 г. — за ўдзел у рэвалюцыйным гуртку, створаным у Харкаве, прычым усе гэтыя дазнанні былі спынены ў адносінах Каладкевіча з прычыны таго, што ён не быў адшуканы...»

Ён і сам з адчувальнай нават у пратакольным запісе іроніяй на тым працэсе паказваў: «Я прыцягваўся да дазнання сапраўды даволі многа разоў, але, паколькі сядзець у турме мне зусім не здавалася цікавым, то я кожны раз паспяваў знікнуць...» І ўжо сур'ёзна, з гаркотай: «Зрэшты, і ў турме мне таксама даводзілася пабываць...»

Адзін з яго таварышаў студэнцкай пары расказваў на старонках часопіса «Былое» ў 1906 годзе, якую насцярожанасць выклікала ў жандармерыі само імя Каладкевіча. Выпушчаны пасля чарговай адсідкі — мусіць, за недахопам доказнага матэрыялу для суда — Каладкевіч быў вельмі знясілены і ўрачы настойліва раілі яму пажыць дзе-небудзь на поўдні. Сваіх сродкаў на такое падарожжа Каладкевіч не меў. І калі таварыша гэтага запрасілі настаўнікам-рэпецітарам у багаты памешчыцкі дом, некуды ў Падольскую губерню, ён прапанаваў тое месца Каладкевічу. Ды Каладкевіч знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Ён, хоць і быў выпушчаны, не меў права выезду з Кіева. Дазвол на выезд залежаў ад жандараў, непасрэдна ад барона Гейкінга — таго самага, што за сваю зацятасць выклікаў адзін з першых стрэлаў рэвалюцыянераў-тэрарыстаў. Таварыш пайшоў да Гейкінга з хадайніцтвам, і марна. «Трымайце сябе падалей ад такіх паноў, як Каладкевіч, — пахмура адказаў барон. — Не тое што дружба, а і знаёмства з імі да добрага вас не давядуць. Просьбы вашай я выканаць не магу...»

Жандары не памыляліся. Нават у знясіленым Каладкевічы тоіўся небяспечны для іх выбуховы патэнцыял.

І калі ў чэрвені 1879 года ў Варонежы сабраўся з'езд «Зямлі і волі» (каму з добрапрыстойных наведвальнікаў батанічнага саду магло прыйсці ў галаву, што паліцыя многа, ой як многа дала б за гэтую смяшлівую, пявучую, знешне такую дружную маладую кампанію на мурагу пад разгалістым дрэвам!), зусім натуральна, што Каладкевіч — у ліку запрошаных і прынятых з'ездам у партыю вядомых рэвалюцыйных дзеячоў.

А калі на з'ездзе выяўляецца фактычны раскол партыі — непрымірымая супярэчнасць паміж прыхільнікамі рашучых тэрарыстычных дзеянняў і пляханаўскай групай цярплівага «прапагатарскага» напрамку (праз некалькі месяцаў гэты раскол утворыць дзве самастойныя рэвалюцыйныя партыі — «Народную волю» і «Чорны перадзел)», — Каладкевіч, таксама зусім натуральна, бо нікчэмныя вынікі «хаджэння ў народ» прыносілі адно расчараванне, стаіць за тэрор, за царазабойства.

26 жніўня 1879 года Выканаўчы камітэт «Народнай волі» выносіць галоўнаму адказчыку за ўрадавую жорсткасць і рэпрэсіі Аляксандру II смяротны прыгавор. Выкананне прыгавору намячаецца на бліжэйшы ж час — вырашана скарыстаць зручны момант, калі царская сям'я будзе вяртацца з Крыма ў Пецярбург. Небагатыя запасы дынаміту, які ў саматужных хатніх умовах, штохвіліны рызыкуючы быць разарванымі на шматкі, яшчэ загадзя пачалі вырабляць Кібальчыч, Ісаеў (між іншым, і гэта наш слаўны зямляк, і пра яго трэба б ведаць нам больш; мужны змагар, ён дужа любіў родную Магілёўшчыну і на памянёным ужо «працэсе дваццаці» сказаў пра яе горкія, шчымлівыя словы: «У Магілёўскай губерні я ніколі не займаўся прапагандай, бо становішча народа там такое жахлівае, што ніякая прапаганда там немагчымая...»), Шыраеў і Якімава, дзеляцца паміж трыма групамі намечаных выканаўцаў прыгавору. У адну з іх, тую, якая выпраўлялася ў Адэсу — Аляксандр меў звычку перад вяртаннем у сталіцу рабіць ад Лівадыі да Адэсы прагулку на яхце,— разам з Кібальчычам, Фігнер, Фраленкам і Лебедзевай уваходзіць і Каладкевіч.

Два месяцы чакання. Два месяцы на вастрыі нажа. Марна. Марская прагулка цара не прывабіла — падгуляла надвор'е...

У групы Жалябава, якая чакала цягнік з царом каля Харкава, таксама крыўдная няўдача: выбуху не адбылося, бо Жалябаў няправільна злучыў электроды...

Тое ж у трэцім месцы, пад Масквой. Пяроўская і Шыраеў своечасова ўбачылі два ярка асветленыя саставы, падрыхтаваліся, і ўсё-такі пасля першага сігналу Пяроўскай усхваляваны Шыраеў электроды не злучыў, а пасля другога злучыў, міны выбухнулі... ды цар ехаў у першым саставе. Зрэшты, калі б ехаў і ў другім, таксама абышоўся б толькі лёгкім спалохам — выбух аказаўся слабы і ніхто ў саставе ад яго не пацярпеў...

Ва ўсе гэтыя драматычныя падзеі адразу ж пасля ўцёку з высылкі акунаецца і Геся Гельфман. Міне семнаццаць месяцаў, паўстане перад царовымі суддзямі шасцёрка народавольцаў, схопленых за 1 сакавіка 1881 года, і Гесін абаронца паспрабуе давodзіць, што яна не вярнулася б на рэвалюцыйную дарогу пасля Літоўскага замка і высылкі, што проста неспрыяльна для яе склаліся абставіны, акалічнасці. У Пецярбурзе, маўляў, «яна не магла ні з кім пазнаёміцца, не магла жыць так свабодна, як ёй таго хацелася б; яна старалася знайсці работу — шыць на швейнай машыне, ды магазіны не хацелі ўвайсці з ёю ў дамоўленасць; усе знаёмыя стараліся адвярнуцца ад яе: яна ўнікла паліцэйскага нагляду і зноў далучылася да дзейнасці рэвалюцыйнай партыі...»

Увогуле на працэсе вельмі нешматслоўная — гэта толькі сярод сяброў яна бывала часам нават задужа гаваркая — тут Геся энергічна запярэчыла. І сказала, што прыехала з высылкі ў Пецярбург «не таму, што паліцыя дапякала, а таму, што, калі мяне вызвалілі, я задалася мэтай служыць той справе, якой служыла».

[Працяг у наступным нумары].

* Тут у пракурора, які пісаў акт, або памылка, або недакладнасць стылю: рэвалюцыянеры рабілі дзве спробы вызвалення Фаміна, і абедзве скончыліся няўдачай.

— Нам нельга тут заставацца...

Перон. І зноў трэба чакаць. Праўда, ёсць поезд, але нямецкі. Чыгуначнік разводзіць рукамі: не ведае, як дапамагчы. Але Янка сваё:

— А можа на паравозе?..

Машыніст згадзіўся. Таварыш Янкі наволі ўзлез на тэндар.

— Ведаеш, каго ты суправаджала? — спыталіся ў Янкі, калі яна вярнулася ў Варшаву.

— Не...

— Гэта быў галоўнакамандуючы Арміі Людовай Міхал Роля-Жымерскі.

□

Новы выезд з Варшавы папярэджвала кароткая перападрыхтоўка. Пэўны час яна павінна была выконваць абавязкі шыфравальшчыцы партызанскай радыёстанцыі. Гэта было не так проста. Трэба было ўзяць радыёстанцыю ў партызанскім атрадзе на Келеччыне і перавезці яе — праз Кельцы і Чанстахову — у раён Радомска, дзе дзейнічала III брыгада імя Юзэфа Бема. Незадоўга перад ад'ездам прывялі да Янкі хлопца і сказалі:

— Гэта Юрый, твой радыётэлеграфіст...

І яшчэ папярэдзілі:

— Глядзі ўважліва, ён гаворыць толькі па-руску. І ведае адно: убачыўшы немца, трэба страляць!

Пакуль ішлі праз лес і палі, усё было добра. Ішлі пяць дзён. У пакунках неслі радыёстанцыю і сілкаванне да яе. Былі падобныя на спекулянтаў. Юрый павінен быў прыкідвацца нямым. Але калі ўвайшлі ў Кельцы, калі хлопец убачыў зялёныя мундзіры гітлераўцаў, — закрычаў:

— Вы здрадзілі! Хочаце мяне выдаць!

І адразу рукою — за наган.

Янка ўцягнула яго ў бліжэйшую браму.

— Ты не салдат, а дурань.

Хлопец апусціў галаву. Ён зразумеў: гэта быў акупіраваны горад. Жыццё тут ішло міма немцаў і наперакор немцам.

— Ну, пайшлі. Не злуйся, — сказаў ціха.

У купэ насупраць іх сядзеў баншуц, вартаўнік на чыгунцы. Дзяўчына паставіла пакунак з акумулятарамі пад лаўку, чамадан з радыёстанцыяй — на паліцу. Баншуц пачаў усміхацца ёй. І Янка распачала размову. Юрый стаяў ля акна з каменным тварам.

Шум на калідоры. Вобыск. Але няма часу. Янка знімае з паліцы чамадан і быццам знянацку ставіць яго на калені баншуцу. У гэтую хвіліну ў дзвярах з'яўляецца жандар.

— Багаж?—пытаецца ён. Янка адмоўна ківае галавой.

Зачыняюцца з трэскам дзверы. Юрый трымае руку на тым месцы, дзе схаваны яго наган.

А Янка ўсміхаецца. Усміхаецца немцу, знімаючы з яго кален чамадан. І Юрый ўсміхаецца. Са здзіўленнем і павагай да Янкі.

□

Пад Эвінай ў Янку трапіла першая куля. Ляжала параненая ў нагу на брычцы, калі атрад выходзіў з акружэння. І раптам вераснёўскае неба абвалілася на яе...

Брычка падарвалася на міне. Два салдаты і возчык павалічылі страты батальёна. Потым знайшлі цела Янкі. Парванае адзенне, кроў на руках і твары, сарваны з ран бінты. Хтосьці сказаў:

— Давайце пахаваем яе ў Вайніцы. Там у нас прыпынак... Нябожчыца закрычала ад болю, калі яе падхапілі за параненыя рукі і ногі...

Выхадзіў Янку доктар Ачкоўскі з Радомска. Куля ў назе, пяць асколкаў у руцэ. Доктар ачысціў косць, выцягнуў кулю, склаў руку... Мінула тры дні — і доктара арыштавалі. Няўжо хтосьці выдаў?! Не, проста доктар сабатаваў загад акупацыйных улад: не выйшаў капаць акопы. Хабар дапамог выцягнуць гэтага цудоўнага чалавека з кіпцюроў фашыстаў. Ён і сёння жыве і працуе ў Радомску і можа не памятае ўжо сваёй пацыенткі...

# ГОЛАС ГНЕЎНАГА ПРАТЭСТУ

**БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЯЧЫ МАСТАЦТВАЎ РАЗАМ З УСІМ САВЕЦКІМ НАРОДАМ АСУДЖАЮЦЬ СІЯНІСЦКІХ ПРАВАКАТАРАЎ**

## ГАНЬБА ІМ!

Уявіце сабе такія дзве сцэны.

У той самы час, калі Давід Ойстрах навошчвае смычок для свайго страдываРыуса, у другім месцы Каханэ заганяе патроны ў свой пісталет.

Супраць чароўнай і незямной музыкі смычка больш пераканальная музыка браўнінга.

Супраць да празрыстасці яснай і чыстай музыкі з клавішаў Эміля Гілельса таксама музыка, праўда, далёка не празрыстая — шыпенне атрутнага газу з бомбы.

Чалавек, які адпраўляецца ў канцэрт, павінен загадзя развітацца са сваімі дзеткамі, бо хто ведае, ці паспеюць паліцэйскія абясшкодзіць пакладзеную міну, ці захочуць фашысцкія бандыты па тэлефоне папярэдзіць, што міна падкладзена.

Ды і наогул, якая ні ў чым непараўнаная асалода сядзець у глядзельнай зале і адчуваць, што кожную хвіліну пад табой можа ўзарвацца пякельная машына!

Да страшэннай ганьбы дайшла Амерыка.

Ніхто не можа паверыць, што афіцыйныя ўлады настолькі бездапаможныя, што не могуць даць рады групцы фашысцкіх сіяністкіх тэрарыстаў.

Ганьба ім, ганьба іх натхніцелям!

Алесь КУЧАР.

## ГЭТА МАЯ КРАІНА

Я нарадзіўся і вырас у Беларусі. Закончыў у Магілёве беларускую сярэднюю школу, потым Віцебскае мастацкае вучылішча і акадэмію мастацтваў у Ленінградзе. Там, у Акадэміі, займаліся студэнты — прадстаўнікі больш як 60 нацыянальнасцей нашай неабсяжнай Радзімы.

Ніхто з нас ніколі не адчуваў адзіноты або адарванасці ад адзінай дружнай сям'і студэнцкага калектыву. Усім заўсёды аказвалася роўная ўвага і давер'е.

Студэнтам 2-га курса інстытута я быў выбраны дэпутатам Ленінградска-Васілеўвостраўскага раённага Савета дэпутатаў працоўных.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны, як і большасць ленінградцаў, здольных несці зброю, добраахвотнікам пайшоў абараняць сваю Радзіму. Як і мільёны савецкіх людзей, прыняў удзел у бітвах Вялікай Айчыннай вайны, маю ўрадавыя ўзнагароды.

У маі 1942 года, пад Харкавам, я быў цяжка паранены. Чатыры байцы батарэі, якой я камандаваў — рускі, беларус і два ўкраінцы — пад агнём праціўніка на салдацкай плашчпалатцы вынеслі мяне з поля бою і больш чатырох кіламетраў неслі да бліжэйшага медсанбата, тым самым даўшы мне другое жыццё.

З 1948 года я член Саюза мастакоў БССР. Я люблю сваю Савецкую Беларусь. Прысвяціў і прысвячаю ёй усё сваё жыццё, усю сваю творчасць.

Беларускі ўрад прысвоіў мне высокае званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

Я не мыслю сябе, сваёй творчасці мастака-жывапісца, без дарагой майму сэрцу роднай прыроды, без таленавітага савецкага народа, які ўпершыню ў свеце стварыў самае справядлівае сацыялістычнае грамадства, народа, які стаў героем усіх маіх светлых спадзяванняў у жыцці і ў творчасці.

Можна было б аб усім гэтым не гаварыць, але нельга быць абыякавым, калі брудныя махінатары з так званай «Лігі абароны яўрэяў» не сунімаюцца, працягваюць свае агідныя правакацыі.

Я далучаю свой голас да гнеўнага пратэсту ўсіх сумленных людзей свету супраць антысавецкіх бясчынстваў сіяністкіх правакатараў і іх апекуноў.

Натан ВОРАНАЎ,
заслужаны дзеяч мастацтваў БССР,
дацэнт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

## МНЕ АГІДНЫ СІЯНІЗМ

Я часта думаю, што было б са мной, калі б не Савецкая ўлада, калі б не мая Радзіма — СССР. Я нарадзіўся ў вельмі беднай сям'і. Бацька мой быў краўцом-закройшчыкам. Ён памёр у 1914 годзе, калі мне было ўсяго чатыры гады. Маці расказвала, каб пахаваць бацьку, сям'я наша пазычыла грошай у мясцовай дворнічыхі.

Музыкай я пачаў займацца з дзіцячых гадоў і вельмі рана пайшоў працаваць. І толькі Савецкая ўлада дала мне магчымасць вучыцца, стаць на ногі. Пасля вызвалення Мінска ад белапалякаў, у 1921 годзе, нас перасялілі з падвала, дзе мы туліліся, у светлую кватэру. Неўзабаве па асабістым распараджэнні старшыні ЦВК Беларусі А. Чарвякова мне далі для заняткаў піяніна фірмы «Гетцэ» — вельмі дарагі інструмент.

Я займаўся ў Мінскім музвучылішчы, затым з адзнакаю закончыў Ленінградскую кансерваторыю, аспірантуру, стаў дацэнтам. У 1940 годзе мне было прысвоена званне заслужанага артыста БССР, у 1946 годзе атрымаў званне прафесара.

Ці магло такое быць у якой-небудзь капіталістычнай краіне? Вядома, не. І ўсёй сваёй дзейнасцю, сваёй работай я імкнуўся аддзякаваць Савецкай Радзіме.

Я шмат іграў, канцэртаваў амаль ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюза. І ўсюды мяне прымалі як савецкага дзеяча мастацтваў, як прадаўжальніка традыцый выдатнай рускай фартэпіяннай школы.

У мяне было шмат вучняў і аспірантаў. Сярод іх таленавітыя музыканты розных нацыянальнасцей: Уладзімір Алоўнікаў, Ігар Палівода, Леанід Юшкевіч — беларусы; лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя Ліста ў Будапешце Валерый Бельчанка — украінец; дыпламант Міжнароднага конкурсу імя Шумана ў Цвікау Аляўціна Багданава — руская; Соф'я Сульская — яўрэйка, цяпер педагог Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі; у ліку маіх аспірантаў — Кантрымас, літовец, які працуе зараз у Вільнюскай кансерваторыі; мая былая аспірантка, выдатная піяністка Ліля Тэрмінасян — армянка па нацыянальнасці. Я сам — вучань выдатнага рускага музыканта Леаніда Уладзіміравіча Ніколаева.

Мне заўсёды быў агідны нацыяналізм і шавінізм, гэта значыць тое, што прапаведуюць сіяністы. І я хачу з усёй катэгарычнасцю заявіць, што мы не маем патрэбы ў абароне такіх нягоднікаў, як Каханэ і яго памагатыя.

Міхаіл БЕРГЕР,
заслужаны артыст рэспублікі,
прафесар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага.

# ТЭХНАЛОГІЯ ПАКЛЁПУ

У часопісах «Камуніст Беларусі» за верасень і «Полымя»—за кастрычнік мінулага года былі надрукаваны рэцэнзіі на манаграфію А. Малашкі «Да пытання аб афармленні аднапартыйнай сістэмы ў СССР», якая выйшла ў выдавецтве БДУ імя У. І. Леніна. У абодвух артыкулах даследаванне ацэньвалася станоўча і характарызавалася як значны ўклад у распрацоўку важнай і актуальнай тэмы. І ніхто ў рэспубліцы, напэўна, не звярнуў асаблівай увагі на тое, што першы з іх падпісан двума, а другі — трыма аўтарамі, бо галоўнае — ідэйны ўзровень, аргументаванасць і даходлівасць рэцэнзіі. Гэта зразумела кожнаму нармальнаму чалавеку, але не пану Арсеню Загорнаму—зласліўцу з радыёстанцыі Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША з фальшывай назвай «Свабода».

Намагаючыся «абвергнуць» даследаванне А. Малашкі, Загорны абыходзіць найбольш істотнае ў кнізе (зноў-такі тыповая тактыка радыёдыверсантаў!). Робіцца гэта рознымі спосабамі. Вось адзін з іх. Каб надаць сваёй бруднай фабрыкацыі хаця б знешні выгляд аб'ектыўнасці, прысяжны хлус бясконца сыпле цытатамі з манаграфіі, рэцэнзій на яе і з іншых крыніц, «падпраўляючы», аднак, іх у адпаведнасці з інструкцыямі сваіх шэфаў.

У рэцэнзіі І. Сяргеева, Я. Калесніка і М. Сташкевіча «Карыснае даследаванне» («Полымя» № 10, 1970 г.) ёсць такі абзац: «У ім аўтар бярэ сабе за мэту адказаць на наступныя пытанні: чаму ў нашай краіне склалася аднапартыйная сістэма, з прычыны якіх абставін зніклі з палітычнай арэны іншыя партыі, саступіўшы камуністам манаполію кіраўніцтва ва ўсіх галінах дзяржаўнага грамадскага жыцця; якой была тактыка ленінскай партыі па пераадоленні супраціўлення дробнабуржуазных партый, па прыцягненні, перавыхаванні і выкарыстанні рэвалюцыйных элементаў з іншых партый і палітычных груп, па выкрыцці і дыскрэдытацыі антысаветчыкаў і рэнегатаў».

Спрактыкаваны фальсіфікатар абрывае сказ пасля слоў: «...якой была тактыка ленінскай партыі...», не прыводзячы заключнай яго часткі. Наўмысна выкінуўшы з цытаты характарыстыку тактыкі Камуністычнай партыі ў перыяд афармлення аднапартыйнай сістэмы ў нашай краіне, Загорны развязвае сабе рукі для паклёпу адносна абставін краху апазіцыйных партый і груповак. Што гэта канкрэтна за партыі, чыім інтарэсам яны служылі, чаму аказаліся на сметніку гісторыі—Загорны не гаворыць. Чаму? Таму што абсалютна нічога пераканаўчага ў іх абарону сказаць немагчыма. І разважанні «тэарэтыка» з ЦРУ зводзяцца ў асноўным да шматразовага паўтарэння зусім беспадстаўнага агульнага абвінавачвання камуністаў у нейкай «узурпацыі» ўлады.

У сваіх слоўных выкрутасах Загорны спасылаецца на савецкі «Краткий философский словарь». Але якое дачыненне да брыдкай хлусні паслугача амерыканскага імперыялізму можа мець прыведзенае ім з гэтага выдання тлумачэнне паняцця «гістарызм»? Аказваецца, цытата са слоўніка спатрэбілася, каб папракнуць А. Малашку за «цяжкі грэх»: ён, бач, «у сваёй кнізе не прыводзіць бліскучага выказвання Троцкага 1904 года», накіраванага супраць ленінскіх арганізацыйных прынцыпаў. Сапраўды, скажы, хто твой сябар, і я скажу, хто ты...

Таму і пырскаюць атрутнай слінай Загорны і яго хаўруснікі, што гісторыя развіваецца не па Троцкім, а па Леніне. Збітыя штампы антыкамуністычнай прапаганды яны з сур'ёзным выглядам спрабуюць выдаць за нейкія «адкрыцці» ў галіне грамадскіх навук.

Чаго варты, напрыклад, іх тэзісы, што аднапартыйная сістэма з'яўляецца нібыта заканамернасцю будаўніцтва камунізма? Каму не вядома, што ў радзе краін сацыялізма дыктатура пралетарыята склалася на шматпартыйнай аснове (Польшча, ГДР, Балгарыя, Чэхаславакія і інш.)! Ды і бальшавікі Расіі зусім не выключалі доступу ва ўрад прадстаўнікоў другіх палітычных партый і груп, але дзяліць з імі ўладу было нельга, бо яны арыентаваліся на буржуазны парламент і ўрэшце скаціліся на контррэвалюцыйныя пазіцыі.

У кнізе А. Малашкі грунтоўна выкрыты бязглуздыя выдумкі заходніх саветолагаў, крэмлянолагаў і навамодных рэвізіяністаў марксізма-ленінізма адносна кіруючай ролі Камуністычнай партыі ў сістэме дыктатуры пралетарыята. Гэтым перш за ўсё і тлумачыцца шалёная атака так званай «Свабоды» на манаграфію «Да пытання аб афармленні аднапартыйнай сістэмы ў СССР». Арсень Загорны—адзін з былых памагатых гітлераўскіх акупантаў, здраднікаў беларускага народа, што дзейнічаюць на гэтай радыёстанцыі. Брыдота, якую ён час ад часу выплюхвае ў эфір, адпрацоўваючы харчы амерыканскай разведкі, міжволі выклікае ў памяці вельмі трапнае выказванне Салтыкова-Шчадрына: «Ненавіснік —гэта істота нікчэмная, амаль звар'яцелая ад злосці».

Я. ПЛЕХАЎ.

# ВАКОЛ ДЗІЦЯЧАГА ЭКРАНА

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.)

дзіцячыя кінатэатры не рашалі адны і тыя ж задачы з Дамамі піянераў, іншымі дзіцячымі ўстановамі. Глыбокая заклапочанасць, жаданне данесці да юнага гледача лепшыя здабыткі айчыннага кінамастацтва, дапамагчы яму разабрацца ў спецыфічных асаблівасцях кінематографа, выхоўваць у ім на прыкладах герояў лепшыя рысы характару, пачуцці бязмежнай любві і вернасці да сваёй Радзімы гучалі ў выступленнях дырэктараў Мінскага кінатэатра «Піянер» — Ф. Люцко, магілёўскага «Космас» — К. Осіпава, дырэктара трэцяга аб'яднання кінатэатраў з г. Чарнаўцы — Б. Пагрэбнага, адказнага арганізатара ЦК ВЛКСМ—Т. Пагарэлай, метадыста Упраўлення кінафікацыі Масавета — Н. Марозавай, дырэктара рыжскага кінатэатра «Піянерыс» — М. Вагнеравай і іншых.

Якія ж формы работы з дзіцячым кінагледачом выявіліся як больш дзейсныя? У першую чаргу — клубы па інтарэсах. У кінатэатры «Космас», напрыклад, існуюць клубы «Бураціна», «Дзяўчынкі і хлопчыкі», «Спартландыя». Ужо самі назвы гавораць аб тэматычнай накіраванасці гэтых клубаў. Трэба заўважыць, што да ўдзелу ў рабоце запрашаюцца людзі старэйшага ўзросту — ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, ударнікі камуністычнай працы, вучоныя, якія расказваюць аб сабе, сваёй прафесіі. У Мінскім «Піянеры» добра зарэкамендаваў сябе «Клуб маладога воіна».

Работнікі спецыялізаваных дзіцячых кінатэатраў імкнуцца не толькі да таго, каб добра наладзіць арганізаваны кінасеанс, яны думаюць аб тым каб у маленькіх гледачоў былі прыемныя ўражанні, расшыраўся кругагляд, у нейкай ступені вызначаліся жыццёвыя шляхі, схільнасці да выбару пэўнай прафесіі. У рыжскім «Піянерысе» адзін з клубаў так і называецца — «Кім быць?» Школьнікі, якія займаюцца ў клубе, наведваюць заводы, фабрыкі, прамысловыя прадпрыемствы, на месцах знаёмяцца з той або іншай прафесіяй.

У час работы нарады ў зале «Піянера» адбываліся сустрэчы з акцёрамі, рэжысёрамі дзіцячых фільмаў І. Юзоўскім, Ул. Ліванавым, Л. Голубам, дырэктарам творчага аб'яднання «Юнацтва» кінастудыі «Масфільм» Ю. Салдаценкавым, праходзілі кінапрэм'еры, кінапанарамы. Удзельнікі нарады тут жа каменціравалі мерапрыемствы, падказвалі, што і як трэба палепшыць, а што варта пераняць іншым кінатэатрам.

Для саміх піянераў гэта былі радасныя і запамінальныя хвіліны. Хаця б — сустрэча з «жывым» кінагероем Віцем Касых, які здымаўся ў галоўных ролях многіх вядомых фільмаў у тым ліку — у «Няўлоўных мсціўцах».

Надоўга захаваецца ў памяці і расказ рэжысёра Л. Голуба пра тое, як ён шукае сваіх герояў, кім потым становяцца ў жыцці дзяўчынкі і хлопчыкі, што здымаліся ў яго фільмах.

Пяць дзён праходзіла нарада. Пяць дзён карпатлівай і натхнёнай вучобы па рабоце з юным кінагледачом.

В. ПОЛЯК.

